E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 8 (37) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІПЕНЬ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Першая сусветная запрашала паміраць...






































# Чалавеча, думай пра свой парламент

***Набліжаецца электаральная кампанія. Варта кожнаму напружыць свой розум***

**Алена АНІСІМ,**
**Галоўны рэдактар**
**«Новага часу»**



Любая краіна падчас палітычных кампаній нагадвае поле бітвы. Ідзе жорсткая барацьба ў кожнай выбарчай акрузе, на кожным выбарчым участку. Кандыдаты што ёсць сілы змагаюцца за душы і галасы выбаршчыкаў. Адны з іх у выпадку абрання абяцаюць манну нябесную, іншыя праўдзіва і настойліва прагназуюць далейшае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне незалежна ад іх абрання. Лішне казаць, што ў нашай краіне сёняшні выбаршчык не верыць ні тому, ні другому. Галасаванне ідзе пад дэвізам «усе роўныя, усё адно будуць красці». Таму прозвішча «шчаслівчыка»-пераможцы – як латарэя: хто замовіў музыку, на таго і ўпадзе.

Сённяшняя палітычная парламенцкая кампанія ў Беларусі, у адрозненне ад некаторых папярэдніх, абяцае быць напружанай, змястоўнай, непрадказальнай і ад таго – надзвычай цікавай. Палітычны пасьянс раскладаецца незвычайна. Пасля перапынку вяртаюцца з небыцця партыі, утварыўшы моцны блок – так званую кааліцыю «Пяцёрка плюс», сярод інтэлігенцыі ідзе пошук новай трэцяй сілы, буйнейшая грамадская арганізацыя – прафсаюзы – пасля накаута пачынае паціху падымацца, засяродзіўшыся пакуль што на ўнутрыгаспадарчых праблемах.

А як усё астатняе грамадзянства, незаангажаванае ў грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі, прысутнае ў прафсаюзах толькі намінальна? Яно жыве сваім самотным жыццём, поўным штодзённых праблем і турбот. Для многіх слова Чарнобыль зусім не абстракцыя, а горкая рэальнасць – анкалагічная хвароба ў раннім веку без вялікіх надзей на выратаванне.

Гарадская моладзь, спазнаўшы спакусу лёгкіх заробкаў, распрапагандаваную яго вялікасцю тэлебачаннем, у разгубленасці ад самастойнага жыцця. Што выбраць: жыць, як бацькі ад заробку да заробку, з кволай надзеяй нейкім чынам займець уласнае жытло пад пенсію, ці паспрабаваць лёгкага хлеба, у тым ліку і з'ехаўшы за мяжу? Вясковая моладзь, нагледзеўшыся на выміранне ад бязмернага ўжывання няякасных спіртовых напояў, рвецца ў горад: ці на вучобу, ці на працу ў сілавыя структуры (там, на іх думку, хлеб лягчэйшы і больш сытны, чым у іншага прафесара), ці не маючы сіл, патанае ў сённяшнім бязрадасным вясковым быце, як у багне, калі не сказаць больш груба. (Зрэшты, пра выміранне вёскі, як фізічнае, так і маральнае, напісаны тамы публіцыстычных артыкулаў і кніг. Аднак няма адаптаваных да аб'ектыўнай рэальнасці праграм перспектыўнага развіцця нашай вёскі.)

Навуковая інтэлігенцыя, у абсалютнай большасці, бясконца, да вынішчэння, эксплуатуе свае мазгі, працуючы ў некалькіх месцах, каб як-небудзь прыхаваць зусім не высакароднае жабрацтва, што б'е ў вочы куды ні глянь: хоць на ўмовы пражывання, хоць на набор прадуктаў, хоць на гардэроб.

Значная частка насельніцтва, не спадзеючыся на дзяржаву, а то і проста па традыцыі, усе выхадныя траціць на абрабляннe 6-20 дачных сотак, з непрыхаваным гонарам дэманструючы ўвосень здабыты ўраджай. Але пры гэтым не прынята падлічваць, колькі грошай было патрачана на дарогу туды-назад, затраты на набыццё насення, аплата рознага роду падаткаў і г.д.

Усе гэтыя рэшткі, што засталіся ў спадчыну ад савецкага грамадства, кантрастуюць з рысамі новага рынкавага свету, якія настойліва і няўмольна, нягледзячы на рознага роду заклінанні, уваходзяць у штодзённае жыццё. Найперш, не заўсёды якасная бясплатная медыцына дапаўняецца аказаннем розных дробных паслуг за дадатковую аплату (на гэта ўводзяцца канкрэтныя планы), а побач набірае абароты цалкам платная медыцына ў выглядзе шыкоўных цэнтраў, мала каму даступная па прычыне сваіх коштаў. Усё менш і менш застаецца магчымасцей для атрымання бясплатнай вышэйшай адукацыі. Не сакрэт, што многія выпускнікі-медалісты прэстыжных сталічных школ, адзаймаўшыся дадаткова з рэпетытарамі, тым не менш не трапляюць у лік шчаслівчыкаў навучацца за бюджэтны кошт і вымушаны аплочваць сваю вучобу ў ВНУ. (Складанасць сітуацыі дапаўняецца тым, што на сёняшні дзень дыплом аб вышэйшай адукацыі не гарантуе годнага, ва ўсіх адносінах, працаўладкавання, таму выпускнікі ВНУ ўслед за выпускнікамі школ нярэдка папаўняюць шэрагі беспрацоўных.)

Тыя, хто сёння знаходзіцца ва ўладзе і непасрэдна фармуе наша жыццё, стараюцца на сваіх пасадах працаваць у меру выхавання, прафесійнай падрыхтоўкі і звычайнай чалавечай адказнасці. Вынікі – розныя. Ёсць тое, што не можа не радаваць аб'ектыўна ўсіх: нашы пахарашэлыя і пачысцелыя гарады і мястэчкі. А ў астатнім, каму як. Пенсіянерам, вядома, даспадобы, што пра іх не забываюцца і час ад часу павышаюць пенсіі. Асобныя катэгорыі бюджэтнікаў, як настаўнікі і бібліятэкары (у тым ліку і ў сталіцы), амаль задаволены сваімі заробкамі. Прадпрымальнікі, змучаныя бясконцымі дадатковымі падаткаабкладаннямі, час ад часу квола пратэстуюць, пасля некаторых дробных саступак з боку мясцовых уладаў працягваюць працаваць. Між тым, цяжар усіх новых падаткаў, а значыць, новых коштаў на звыклыя і неабходныя тавары нясе шэраговы грамадзянін. Гэта ісціна, і яе ўсе даўно ведаюць. Але ці то зайздрасць да чужога багацця, ці яшчэ што замінае падняць гэтыя пытанні маштабна і дабіцца канкрэтных цывілізаваных рашэнняў дзеля паляпшэння агульнага дабрабыту.

Пра рынкавыя адносіны, як безальтэрнатыўныя для цывілізаваных краін XXI стагоддзя, напісана шмат. Аднак кожнае грамадства выбірае свае шляхі эканамічнага развіцця, праходзіць свае этапы. А гэта, безумоўна, вызначаецца вышэйшым палітычным кіраўніцтвам краіны.

Напэўна, добра падкаваны аналітык знойдзе ў сённяшнім палітычным раскладзе Беларусі тыповыя рысы і праўдзе гістарычную аналогію з якой-небудзь іншай краінай. Хтосьці возьмецца на падставе гэтага зрабіць ці залішне аптымістычны, ці, як найчасцей у нас, беларусаў, бывае, занадта змрочны прагноз. Нямала тых, хто няблага нажывецца падчас будучай парл аменцкай кампаніі. Усё гэта, як ва ўсіх. Тут няма нічога дзіўнага. Акрамя аднаго. Надзвычай багата сярод палітычных і каляпалітычных суб'ектаў людзей, глыбока раўнадушных як да асабістых праблем канкрэтнага беларускага грамадзяніна (што не рэдкасць для палітыкаў усяго свету), але, што значна горш, да бліжэйшай будучыні сваёй Радзімы – нашай агульнай Беларусі. Таму хацелася б, каб поспех выпаў на долю тых людзей, хто можа, умее і хоча працаваць на карысць нашай Бацькаўшчыны. Гэта ў інтарэсах усіх, хто складае народ Беларусі.

# Першая сусветная запрашала...

На першай старонцы нумара падаюцца рэпрадукцыі прапагандысцкага плаката з часоў Першай сусветнай вайны. Па краінах выканання яны розняцца стылістыкай і майстэрствам, але абсалютна падобныя зместам – усе краіны навучалі сваіх грамадзян, што вайна – справа нецяжкая і «Перамога будзе за намі». Сёння ўсе даследнікі сходзяцца на думцы, што той вайны магло не быць. Амбіцыі некалькіх пасрэдных, але амбітных імператараў, узмоцненыя высілкамі іхных знешніх разведак, адліліся ў сусветную бойню.

Сербскі студэнт Гаўрыла Прынцып, сябра нацыяналістычнай арганізацыі «Маладая Боснія», не быў добрым стралком. Але, зрабіўшы два стрэлы з рэвальвера, ён трапіў наступніку аўстра-венгерскага трона Францу Фердынанду проста ў скронь, а яго жонцы – у жывот. Франц Фердынанд загінуў імгненна, эрцгерцагіня Соф'я памерла ў шпіталі. Гэта здарылася 28 чэрвеня 1914 года, а праз месяц Аўстра-Венгрыя аб'явіла вайну Сербіі. Яшчэ праз тры дні імператар Мікалай II аддаў загад на мабілізацыю. У 23 гадзіны 1 жніўня імператар Германіі Вільгельм II аб'явіў вайну Расіі, 3 жніўня – Францыі, назаўтра ў вайну ўступіла Англія. Вось так цывілізацыя вяртаецца ў пячэрны век. Яшчэ дзень таму гучалі сімфоніі, ў салонах чыталі вершы, абмяркоўваліся нобелеўскія прэміі, а цяпер тыя самыя людзі ідуць рэзаць адзін аднаму горла. Колькі ж у чалавеку чалавечага?

Паступова ў арбіту вайны ўцягнуліся 38 дзяржаваў з насельніцтвам 1,5 мільярда чалавек (на той час гэта 85% насельніцтва свету). Пад ружжо былі пастаўлены 74 мільёны чалавек. Вайна цягнулася з 1 жніўня 1914 года па 11 лістапада 1918 года. Пачынаючы ваенныя дзеянні, ніводная краіна–ўдзельніца не разлічвала на такую працягласць вайны і не мела адпаведных запасаў узбраення і харчавання. Германія планавала маланкава разграміць Францыю і перанесці галоўныя ваенныя дзеянні супраць Расіі. Для Расійскай імперыі вайна пачалася на некалькі гадоў раней, чым планаваў Генштаб. Падрыхтоўку эканомікі, прамысловасці, пераўзбраення войскаў меркавалі закончыць толькі ў 1917 годзе. Можа з-за непадрыхтаванасці вайна для царскай Расіі пайшла няўдачна. Рускія арміі былі вымушаны пакінуць Галіцыю, Польшу, частку Прыбалтыкі, палову Беларусі. У выніку нямецкага наступлення фронт усталяваўся па лініі Рыга – Двінск – возера Нарач – Баранавічы – Пінск. Страты расійскага боку ў гэтых бітвах склалі 3,5 мільёны салдат. Колькасць бежанцаў з Беларусі перабольшыла 2 мільёны чалавек.

На гэтай вайне было ўжыта шмат тэхнічных навінак. У красавіку 1915 года немцы скарысталі супраць французаў сродак масавага знішчэння – газ. Усяго за вайну Германія, Францыя і Брытанія скарысталі 125 тысяч тон атрутных газаў. Атрымала прызнанне і развілася знішчальная і бамбавая авіяцыя. Выйшаў на палявыя абшары танк, мора засялілася субмарынамі. Кулямёты, якіх пад канец вайны налічвалася болей за 100 тысяч, паставілі кропку на гісторыі уланаў, гусараў і кірасіраў. Арміі перасядаюць на аўтамабілі.

У 1917 годзе ў вайну ўступілі ЗША, якія да гэтага трымаліся нейтралітэту. Амерыка накіравала ў Еўропу 1 мільён 200 тысяч добра ўзброеных салдат, што дазволіла перайсці да разгрому нямецка-аўстрыйскага блоку. Германскі імператар Вільгельм у лістападзе 1918 года адмовіўся ад кароны. Зніклі з палітычнай карты свету яшчэ тры імперыі – Расійская, Атаманская і Аўстра-Венгерская, імператар якой Франц Іосіф памёр у 1916 годзе, а яго наступнік імператар Карл I у кастрычніку 1918 года адмовіўся ад улады, выдаўшы маніфест аб федэратыўных пачатках дзяржавы. Ленінская Расія выйшла з вайны 3 сакавіка 1918 года па сепаратным Брэсцкім міру, аддаўшы немцам за спыненне наступу на Маскву амаль усю Беларусь і палову Украіны.

У выніку вайны рассыпаліся імперыі, з'явіліся новыя дзяржавы: Фінляндыя, Польшча, Чэхаславакія, Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў, Латвія, Літва, Эстонія, Украіна, БНР (БССР).




За гады Першай сусветнай вайны памерлі ад эпідэміяў каля 10 мільёнаў чалавек, было забіта 9.998.800 чалавек, згінулі без вестак і патрапілі ў палон 6 мільёнаў чалавек, скалечаны болей за 6 мільёнаў чалавек, лёгкія раненні атрымалі 14 мільёнаў чалавек.

Больш за ўсё ўражвае, што вайна праз 20 гадоў аднавілася з большым размахам і жудаснымі ахвярамі. Хто мае розум і па натуры мірны – не мае ўлады, а хто трымае ўладу – любяць гуляць у вайну.

**Пётра КЛІМОВІЧ**




## Праз 30 гадоў знікнуць 60% моваў свету?

Працэс глабалізацыі, які апякаюць звышмоцныя дзяржавы, і татальнае вывучэнне моладзю англійскай мовы можа прывесці да таго, што праз 20–30 гадоў амаль дзве траціны усіх моваў Зямлі ператворацца ў мёртвыя.

Да такой змрочнай высновы прыйшлі ўдзельнікі міжнароднай канферэнцыі лінгвістаў, якая адбывалася ў Лейпцыгу (федэральная зямля Саксонія).

Германскія лінгвісты адзначаюць, што пагроза знікнення навісла сёння над чатырма тысячамі моваў і нарэччаў розных народнасцяў планеты. Ёсць такія рэгіёны, дзе носьбітамі ўнікальных моваў застаюцца некалькі чалавек. Яны могуць знікнуць у любы момант. Эксперты лічаць, што адзіная магчымасць выратаваць мовы, якія апынуліся ў такім стане, – камандзіраваць лінгвістаў, якія б вывучылі гэтыя мовы, стварылі б слоўнікі і граматычныя даведнікі. Потым па гэтых крыніцах можна было б навучаць непасрэдна «абарыгенаў», калі такія знойдуцца. Слоўнікі можна зрабіць, але зрабіць мову жывой могуць толькі такія ўмовы, калі яна будзе мовай зносінаў у сваім гістарычным рэгіёне ўжывання. Разумеючы небяспеку, зараз усе краіны лічаць зберажэнне нацыянальнай мовы адной з прыярытэтных задачаў. Бо найперш мова стварае адметнасць нацыі і забяспечвае нацыянальную бяспеку, напрыклад, ад паглынання колькасна большым суседам.

# Першая 50-годка

## Гутарка з гісторыкам і грамадскім дзеячам Алегам Трусавым з нагоды юбілею

**- Спадар Алег, у сувязі з 50-годдзем ты са шматлікіх віншаванняў даведаешся, які ты шаноўны і аўтарытэтны і колькі дабра зрабіў для радзімы на ніве археалогіі і грамадскай дзейнасці. Шчыра далучаюся да такіх пахвалаў, бо сапраўды твой ўнёсак у нашу гістарычную навуку вельмі значны – 500 навуковых і публіцыстычных публікацыяў сведчаць аб нястомнай працы. У сувязі з гэтым вось пра што я зараз падумаў: а чаму ты заняўся гісторыяй? Наогул, дзе ты ўзрос, як выхоўваўся, хто паўплываў на цябе ў дзіцячыя гады. Вось для мяне такім чалавекам была мая бабуля. Каб не яе аповяды, прыклад і ўплыў, можа быў бы я зусім іншы. Хто ў цябе галоўны чалавек дзяцінства?**

– Мая прабабка. З чатырох год я жыў пры бабцы і прабабцы. У бацькоў маіх стасункі, мякка кажучы, былі няпростыя. Я іх і не бачыў. А выгадавала мяне прабабка мая, Марыя Кузьмінічна Драздоўская. Яна сама мела 9 дзяцей, усіх падняла і вывучыла. У бабкі Марыі была старая шляхецкая загартоўка. Яна некалькі эпохаў пабачыла і перажыла, шмат ведала і была адорана ад прыроды і розумам, і талентам вуснага слова. Я ёй дужа ўдзячны, бо яна арыентавала на ўсё духоўнае і высакароднае. Не даравала хлусні, непаважных учынкаў.

Бабуля мая, Ганна Мяжэвіч, сябравала з настаўніцай Дамінікай Казлоўскай, маці Міхася Ткачова. У Мсціслаўлі яе клас лічыўся лепшым, дзякуючы «знаёмству» ў спадарыні Дамінікі я вучыўся ў пачатковых класах. Вось так мы з Міхасём прыйшлі з Мсціслаўля ў гістарычную навуку. Для мяне ёсць у гэтым нешта містычнае... А яшчэ ў мяне быў цудоўны класны кіраўнік Юры Захаравіч Нікіцін, ён вёў гісторыю...

**– А чаму ты захацеў стаць археолагам?**

– Шчаслівы выпадак. Калі я вучыўся ў трэцім класе, хадзіў на раскопкі, якія тады вяліся ў Мсціслаўлі. Убачыў раскапаныя клеці, хаты, агароджы, і так мяне гэта відовішча захапіла, што вырашыў – буду археолагам. І потым стаў. Так што я не хістаўся, не шукаў прафесіі, як часцяком у моладзі бывае.

**- І адразу пасля школы пайшоў на гістфак?**

– А чаго цягнуць? Я скончыў школу з залатым медалём. Праблемаў з паступленнем не было. Мог яшчэ паступаць у самы прэстыжны тады медыцынскі інстытут. Ды мне добрыя людзі параілі схадзіць у морг, паглядзець, ці зацікавіць такая вучоба. Ну я схадзіў, зразумеў – што не маё. І пайшоў па абранай сцежцы на гістфак БДУ. Потым там адкрылася кафедра археалогіі, потым быў дыплом, аспірантура ў нашага вядомага археолага Штыхава...

**– Спадар Алег, археалогія гэта той гістарычны матэрыял, які можна памацаць рукамі. Ён – неабвержны. У адрозненне, скажам, ад гістарычнай публіцыстыкі, якая трымаецца на вытанчаных здагадках, інтэрпрэтацыях або, можа, марах. Вось нядаўна газета «Наша слова» надрукавала шэраг тваіх артыкулаў пад рубрыкай «Незнаёмыя беларускія дзяржавы». Ці не надта гэта рашуча па задуме? Ці не здаецца табе, Алег Анатольевіч, што шмат простых чытачоў адчуе немалое здзіўленне, знаходзячы сярод «беларускіх незнаёмых дзяржаваў» Пскоўскую рэспубліку, Вялікае княства Цвярское, Сярэднюю Літву. Відаць, будуць яшчэ ў гэтым цыкле Чарнігаўскае ды Смаленскае княствы... Што прадыктавала гэты смелы інтарэс?**

– Справа вось у чым. Датычна гістарычных асэнсаванняў нашай даўніны мы зараз на нейкім раздарожжы. Доўгі час наша азнаямленне з роднай гісторыяй трымалася схемаў, складзеных і распрацаваных сто год таму пачынальнікамі курсаў беларускай гісторыі і аўтарамі першых друкаваных гісторый. Шмат людзей успрымала нашу старажытнасць у такіх канонах, нашы новыя кнігі выглядаюць як клоны старых. Гэта, так мовіць, мінімальны набор сціплых гістарычных міфаў для «беларускага джэнтльмена»: Рагвалод, Полацкі перыяд, Міндоўт, Вітаўт, Аршанская бітва, Скарына, Леў Сапега, расейскае нашэсце, Падзелы, Касцюшка, Паўстанні, Ластоўскі, БНР, Курапаты. Шмат якія праблемы і імёны проста ляжаць у ценю незапатрабаваныя. Прыкладам, пытанні «Сярэдняй Літвы», Віленшчыны, у часе савецка-польскай вайны, ленінскага і сталінскага гандлю гэтым рэгіёнам, захоп яго палякамі, доўгі час у нас наогул не асвятляліся. А гэта даволі змрочная старонка беларускай гісторыі. Тым болей, калі ведаеш, як савецкі ўрад запісаў сваё рашэнне аб перадачы Віленшчыны Летуве ў 1939 годзе.



Алег Трусаў са сваім самым любімым чалавекам – унучкай Алёнкай

**– Гэтым годам у верасні Еўропа будзе адзначаць 65-ю гадавіну трагедыі – пачатку Другой сусветнай вайны. Дастанецца і Гітлеру, і Сталіну, якія вайну развязалі. А вось, Алег, як ты ставішся да грамадскіх дзеячаў, публіцыстаў, гісторыкаў, якія лічаць, што ніякага ўз`яднання Усходняй і Заходняй Беларусі не было, а быў захоп Чырвонай Арміяй польскіх зямель, «удар у спіну», і таму нам трэба пачувацца вінаватымі перад палякамі. Мне часта даводзіцца чуць такія развагі, асабліва ад людзей маладых, і мяне дзівіць неразуменне імі межаў сваёй радзімы ў мінулым і сёння, значнасці дзяржавы для будучыні нацыі. Зразумела, што гучней за іншых пра «вінаватасць» выказваюцца людзі, якія часта ездзяць у Польшчу, кантактуюць у ідэалагічных колах і падзяляюць польскую «праўду». Але ці магчыма на здаровую галаву лічыць Навагрудак, Брэст, Гродна ці Крэва польскімі гарадамі?**

– Польская восень 1939-га на землях Беларусі – гэта вынік Рыжскага міру. Палякі ў 1939-м наступілі на тыя граблі, якія самі паклалі на дарозе ў 1921-м. Жывучы клопатам бягучага дня, польскі ўрад, магчыма, тады радаваўся, што аднаўляецца Рэч Паспалітая ў межах 1792 года, – зноў Беларусь і Украіна ў складзе іхнай дзяржавы. Аднак час быў зусім іншы, яны прылучылі насельніцтва, якому здрадзіў Ленін, якое прайшло сусветную вайну, ужо мела нацыянальную інтэлігенцыю. Гэта насельніцтва палякам давялося эканамічна, маральна і нацыянальна душыць, нават у Бярозе-Картузскай. Да таго ж побач знаходзілася другая палова Беларусі – без звычных паноў. Абяцаная аўтаномія беларускіх паветаў у Польшчы не адбылася. Наадварот, выціскалася беларуская мова, вялася пацыфікацыя (узброенае замірэнне) беларусаў і ўкраінцаў. Таму невыпадкова Чырвоную Армію ў верасні сустракалі кветкамі. А потым людзі дазналіся, чаго каштуюць сталінскія рэпрэсіі. Гэта скразная трагедыя. Ніхто ў Еўропе не меў дзе схавацца. Польшча, Беларусь, Украіна, усе краіны і народы. Палякі крыўдавалі, што на іх напалі адымаць «усходнія крэсы», але самі ў 1938 годзе напалі на Чэхію адымаць Цешыцкі край. За ўз`яднанне нашаму народу давялося дорага заплаціць. І ахвярамі Катыні і Курапатаў, жыццямі спецперасяленцаў, а пасля партызанкай. У гады вайны не да чэсці палякаў была арганізавана антыбеларуская барацьба аддзелаў АК на этнічных беларускіх землях, напрыклад, на Наваградчыне. І ніхто не прынёс прабачэння. Безумоўна, для нашай краіны вяртанне ў дзяржаву забраных зямель – гістарычная падзея. А магло б яе не быць. Адназначна верасень 1939-га не ацэніш. Дарэчы, пашанцавала тады Летуве атрымаць са сталінскай ласкі Віленшчыну і Вільню. Але праз год давялося за гэта ўвайсці ў СССР. Але вось што істотна: час ідзе, пакаленні змяняюцца, а дзяржавы застаюцца. На вялікі жаль, калі няма сілы, размовы аб правах народаў – марнатраўства. Бо дзейнічае права дужага. У нашай гісторыі мы гэта добра зведалі...

**- У нас стагоддзе, на якое прыпадае Люблінская унія, любяць называць Залатым векам. Ці ты, спадар Алег, таксама трымаешся такой ацэнкі XVI стагоддзя?**

- Так, сапраўды Залаты век. Колькі ўзнікла гарадоў і мястэчак. Пад канец стагоддзя болей у 6 разоў было, чым на пачатку. А кнігадрукаванне. А Рэфармацыя. А рамёствы. Шмат значнейшых падзеяў...

**– Аднак Скарына з`ехаў у Прагу, асветнік Будны надрукаваў па-беларуску толькі 2 кнігі, ён жа пераклаў на польскую мову Біблію і яе выдалі ў Брэсце. Трэці Статут цалкам заняволіў сялян. Вольнымі людзьмі былі татары, караімы, габрэі, а беларусы апынуліся пад панскім гнётам, як быдла. Таму і не маглі стварыць купецкае саслоўе. Вось і хвалёная наша урбанізацыя. За кошт якога насельніцтва раслі нашы гарады? Можа, таму яны не надта былі абароненыя. Пскоў Баторый браў тры месяцы - і не ўзяў, а Грозны Полацак узяў за 2 тыдні асады. Колькі абуральных словаў напісана пра расейскія падзелы Рэчы Паспалітай, а пра тое, што палякі ў 1569 годзе адарвалі сабе палову Вялікага княства Літоўскага – усю Украіну і Падляшша, лёгкія ўзгадкі, нібыта падкову на гасцінцы яны знайшлі. А па сутнасці, дзяржаву Гедыміна, Альгерда, Вітаўта бязлітасна парэзалі папалам.**

– Істотны заняпад нашых зямель звязаны з казацкімі войнамі і нашэсцем расейцаў у 1654 годзе. Тады эканоміка зруйнавалася дашчэнту, і людзей палягло – кожны другі. І Вільня, ператвораная расейцамі ў кастрышча, страціла сталічнае значэнне. Менавіта таму з`явілася шмат павятовых цэнтраў – Гродна, Нясвіж, Слонім, Ружаны, ды кожная сядзіба абзаводзілася палацам. Зразумела, што гэта ўжо дзяржаўны фарс. І магнаты каталізаваліся, і паланізаваліся, і здрадзілі свайму народу. Нездарма ў часы паўстання Касцюшкі іх ужо не чуваць, а ў XIX стагоддзі выходзіць да грамадскага жыцця бедная шляхта і напрыканцы стагоддзя – здаровае сялянства. Народ захаваў мову і адрадзіў дзяржаву. Сённяшняя дзяржаўнасць Беларусі аплочана крывёй мільёнаў людзей. Ва ўсім свеце заўжды дзяржаўнае адраджэнне дорага каштуе, людзі ваююць за сваю дзяржаву, народ выстаўляе герояў. Усё гэта ў нашай даўняй і нядаўняй гісторыі ёсць. Таму ўсё «залатое» трэба высока цаніць, бо гэта – увасобленае ў рэчы ці падзеі імкненне да ідэалу, самы высокі набытак народа.

**– А вось зараз як, на тваю думку, мы маем дзяржаўнасць ці толькі дэкарацыю на гэтую тэму? Урад у нас рускамоўны, адукацыя рускамоўная, замест сваёй царквы – экзархат маскоўскай патрыярхіі, лад шчыра аўтарытарны, ідэалогія з усялякіх недарэчных аскепкаў сабраная. Не надта аптымістычны выгляд. Ці не так?**

– Але не песімістычны. Варта азірнуцца хоць на канец 1980-х гадоў. Хіба гэта не дасягненне – наша адроджаная дзяржава. Зараз яна будзе стаяць. Не знікне. Галоўнае, што шырокія пласты народа гэта засвоілі – вунь як адрэагавалі людзі, калі расейскі прэзідэнт дазволіў сабе публічна выказацца пра ўваход у Расію шасцю губернямі. І левыя, і правыя, і інтэлігенцыя, і сяляне – усе аказаліся аднадумцамі і падтрымалі Лукашэнку. Трэба заўважыць, што насамрэч у дзяржаўным станаўленні Лукашэнка сыграў вялікую ролю, некалі даследчыкамі гэта будзе адзначана. Выбралі б у 1994 годзе Кебіча, ужо былі б у складзе Расіі. У нас яшчэ і цяпер працягваюць блытаць незалежнасць з дэмакратыяй. Аўтарытарны лад не спрые дэмакратыі, але без яго немагчыма станаўленне незалежнасці, асабліва ў нашых умовах ды пры нашых суседзях з двух бакоў. А для нас у дадзены перыяд незалежнасць больш неабходная, бо інакш мы ніколі не здолеем выйсці да самастойнага эканамічнага і палітычнага жыцця. Недахоп дэмакратыі яшчэ можна перажыць, а недахоп незалежнасці – не. Гэта як недахоп кіслароду. Некалі мы з Зянонам Пазьняком на плошчы Свабоды ў Мінску, калі там вяліся раскопкі, марылі, што вось добра было б адбудаваць тут мінскую ратушу. Зараз яна стаіць. Быў у Слоніме касцёл святога Андрэя, асуджаны савецкімі ўладамі да знішчэння – там трымалі соль, якая з`ядала цэглу і муроўку. Мы здолелі дамагчыся дазволу выкінуць адтуль соль, сваімі рукамі адбівалі яе ад сцен. А потым вернікі касцёл вярнулі да жыцця. Усё можна зрабіць, калі робіш. І дзяржаву, я ўпэўнены, зробім, калі будзем думаць пра яе, а не лічыць бягучыя беды за Апакаліпсіс.

**– А чаму, спадар Алег, у нас гэтае бягучае жыццё так марудна цячэ? Бытцам у нас большы век, чым у іншых?**

– Калі адной фразай адказаць, дык таму, што не хапае гарадской ментальнасці. Гэта па статыстыцы ў нас 33 працэнты вясковага насельніцтва, а астатняе – гараджане. Насамрэч, людзей гарадскога выхавання і гарадской культуры няшмат. У 1944-м годзе у Мінску заставалася гараджанаў 50 тысяч з 300 даваенных, ды і з тых, 50-ці, відаць, палова былі нядаўнія вяскоўцы. У 1970-м у Мінску ўжо жыў мільён. Адкуль жа такім немалым лікам узяліся? Не напладзілі ж тыя 50 тысяч па 20 дзяцей. Ды проста – з вёскі сталінскай, беспашпартнай, прыгоннай збеглі. Таму сёння большыня ў гарадах – вяскоўцы прыроджаныя. Не варта забываць: вёска ніколі і нідзе дзяржаву не стварала і да гэтага не імкнулася.

Працяг на стар. 5

# Вучыся абараняць правы

***«Правы чалавека – аснова чалавечага існавання... Правы чалавека – гэта тое, што робіць нас людзьмі».***

**Кофі Анан, Генеральны сакратар ААН**

Хоць само паняцце «правы чалавека» ўзнікла вельмі даўно, фактычна ўсеагульнае прызнанне гэтых правоў адбылося пасля Другой сусветнай вайны перад усім дзякуючы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншым міжурадавым арганізацыям, якія змаглі паставіць праблему перад сусветнай супольнасцю. Прэзідэнт ЗША Франклін Рузвельт намеціў некаторыя агульныя для ўсяго чалавецтва сацыяльныя і палітычныя задачы ў сваёй знакамітай прамове «Чатыры свабоды»: свабода слова і выказвання думкі, свабода кожнага па-свойму пакланяцца Богу, свабода ад галечы і свабода ад страху.

Абарона правоў чалавека прывяла да стварэння па-сапраўднаму сусветнага руху, які прапагандуе павагу да чалавечай годнасці і раўнапраўных адносінаў да асобы.

Распаўсюджванне ведаў пра змест і значэнне нормаў у галіне правоў чалавека сярод простых людзей і сярод тых, хто прымае рашэнні, з'яўляецца адным з найбольш эфектыўных спосабаў паказаць каштоўнасць і важнасць гэтых нормаў. Правы чалавека сталі асобнай акадэмічнай дысцыплінай, вывучэннем якой займаюцца навуковыя цэнтры ў многіх краінах свету.

На сёння існуе больш за 100 міжнародных дакументаў па правах чалавека: статуты, канвенцыі, дэкларацыі, асноўныя прынцыпы і кіраўніцтвы. Сярод важнейшых элементаў міжнароднай сістэмы абароны правоў чалавека – вывучэнне спецыяльнымі органамі стану з правамі чалавека ў асобных краінах, расследаванні спецыяльных дакладчыкаў і прадстаўнікоў, распрацоўка механізмаў падачы скаргаў прыватнымі асобамі і дзяржавамі, падрыхтоўка палітычных заяў, якія асуджаюць парушэнні правоў чалавека.

Недастаткова прачытаць Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, каб папярэдзіць парушэнні гэтых правоў. Трэба дакладна ведаць, што гэта такое. Правы чалавека – гэта такая дысцыпліна, якая знаходзіцца на памежжы розных галін права, паліталогіі, філасофіі і этыкі.

Тры гады пры Хельсінкскім фондзе правоў чалавека ў Варшаве працуе Вышэйшы міжнародны курс па абароне правоў чалавека, дзе вучацца грамадзяне з розных краінаў СНД, якія выбралі сваёй прафесійнай працай або грамадскай дзейнасцю абарону правоў чалавека. На працягу пяці сесій удзельнікі курса атрымліваюць веды па гісторыі права, механізмах кантролю асобных галін улады, унутраных і міжнародных сістэмах і інструментах абароны правоў, на практыцы знаёмяцца з працай органаў ААН у Жэневе, якія маюць дачыненне да абароны правоў чалавека, працай Еўрапейскага суда па правах чалавека (ЕСПП) у Страсбургу і іншых міжнародных інстытутаў у краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

Ужо закончылі навучанне і абаранілі курсавыя працы дзве групы навучэнцаў па пяцьдзесят чалавек. Тут навучаліся людзі розных прафесій, большасць з якіх мае вышэйшую юрыдычную адукацыю ці нават вучоную ступень.

Зараз на Вышэйшым міжнародным курсе па абароне правоў чалавека ў Варшаве праходзіць навучанне трэцяя група курсантаў. Нягледзячы на вялікі конкурс пры паступленні, не ўсім удаецца дайсці да канца, таму што перыядычна праходзіць праверка ведаў – тэматычныя тэсты і дамашняе заданне. Каб працягваць і паспяхова закончыць вучобу, прыходзіцца не толькі ўважліва слухаць лекцыі, але шмат працаваць самастойна з рознымі крыніцамі інфармацыі.

Чаму гэтыя людзі выбралі сваёй дзейнасцю такую галіну, як правы чалавека, і паступілі на Вышэйшы міжнародны курс па абароне правоў чалавека ў Варшаве?

**Мякшын Мікалай, г.Архангельск.** Дзве вышэйшыя адукацыі: Архангельскі дзяржаўны педагагічны інстытут і Усерасійскі завочны фінансава-эканамічны інстытут. Дырэктар Цэнтра падтрымкі і сацыяльна-творчай рэабілітацыі інвалідаў. У 1996 годзе прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік сацыяльнай абароны насельніцтва Расійскай Федэрацыі».

– Прававая абарона і дапамога інвалідам – і праца, і хобі. Часам удаецца зрушыць законатворцаў: інвалідам выдзяляюцца квоты на прадпрыемствах, ствараюцца працоўныя месцы. Нават на бытавым узроўні можна заўважыць уплыў арганізацый, якія займаюцца абаронай правоў інвалідаў: мы ўспрымаем гэтых людзей такімі ж членамі грамадства. І нават радзей вымаўляем слова «інвалід», а кажам «чалавек з абмежаванымі магчымасцямі».

Новыя веды дапамагаюць больш эфектыўна арганізаваць працу над праектамі па абароне правоў і цярпімых адносінах да інвалідаў. Плануем з дапамогай студэнтаў старэйшых курсаў юрыдычнага факультэта і сацыяльнай працы Архангельскага універсітэта арганізаваць кансультатыўны пункт, дзе можна будзе атрымаць бясплатную юрыдычную дапамогу.

У складанай сітуацыі, якая склалася ў нашым грамадстве, неабходна працаваць над стварэннем прававой дзяржавы, аб якой у апошні час шмат гаворыцца на розных узроўнях. Для гэтага неабходны веды, мужнасць і жаданне аднаўляць справядлівасць.

**Гасан Багіраў, выпускнік юрыдычнага факультэта Бакінскага дзяржаўнага універсітэта.** Яшчэ падчас вучобы ў магістратуры захапіўся праваабарончай дзейнасцю. Працаваў валанцёрам у грамадскай арганізацыі Бюро па правах чалавека і захаванні законнасці. Зараз працуе юрыстам у Арганізацыі па назіранні за турмамі «Азербайджан».

– Мая праца непасрэдна звязана з абаронай правоў чалавека. Зараз займаюся стварэннем савета грамадскага кантролю па нагляду за пеніцыярнымі ўстановамі ў Азербайджанскай Рэспубліцы.

Паступаючы на Вышэйшы міжнародны курс па абароне правоў чалавека ў Варшаве, я ставіў сабе мэту павысіць свае веды як праваабаронцы. Планую надалей працаваць менавіта ў сферы абароны правоў чалавека. Хацеў бы ў будучым паступіць у магістратуру Цэнтральнага еўрапейскага універсітэта ў Будапешце на факультэт правоў чалавека.

**Аляксандр Шваюн, г.Вінніца, Украіна**. Па адукацыі – настаўнік гісторыі і права, юрыст. Супрацоўнічае з Падольскім цэнтрам правоў чалавека.

– Маю добрую адукацыю, праходзіў стажыроўку як юрыст у еўрапейскіх краінах, а таксама ў ЗША. Хачу прафесійна займацца тым, што мне падабаецца, што ўмею і што атрымліваецца. У бліжэйшай будучыні планую стварыць пастаянна дзеючую рэгіянальную школу па правах чалавека. Спадзяюся, што вучоба на Вышэйшым міжнародным курсе па абароне правоў чалавека паспрыяе здзяйсненням маіх планаў.

ААН і іншыя міжнародныя арганізацыі зацвердзілі правы чалавека, але іх захаванне – справа кожнай асобнай дзяржавы. Паважаць гонар, годнасць і правы людзей – такая задача стаіць перад любымі органамі дзяржаўнай улады. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ўяўляе сабой ідэал таго, як ўлады павінны абыходзіцца з жыхарамі сваёй краіны і клапаціцца аб іх. Кожны з нас павінен паважаць правы і свабоды іншых людзей. Гэта шлях да грамадства, у якім людзям прадстаўлена магчымасць развіваць свае здольнасці, удзельнічаць у прыняцці важных сацыяльных і палітычных рашэнняў і задавальняць свае асноўныя патрэбнасці.

**Леанарда МУХІНА**



Трэці курс у часе візіта ў Канстытуцыйны Суд Польшчы

## Інтэрв'ю Баршчэўскага журналу «Le Figaro»

Французскі журналіст Патрык дэ Сэнт-Экзюперы сустрэўся з прэзідэнтам беларускага ПЕН-клуба, пісьменнікам Лявонам Баршчэўскім.

Размова пачалася з узгадкі пра знакавую асобу ў беларускай літаратуры – Васіля Быкава, які памёр год назад.



**Лявон Баршчэўскі.** Міністр культуры абяцаў выдзеліць нам сродкі на магільны помнік для гэтага выдатнага творцы. Але не стрымаў абяцання. Нас гэта не здзівіла. Быкаў належаў да тых людзей, якія ўслаўлялі дух нацыі. У яго былі непахісныя пазіцыі што датычна непрыняцця ўсіх формаў таталітарызму. Ён гуманіст, а не нацыяналіст. Аднак ён верыў у беларускую мову і культуру, чым і быў няўгодны, паколькі ўлада ненавідзіць усё беларускае.

**«Le Figaro».** Ці існуе на сённяшні дзень паняцце «беларус»?

**Баршчэўскі.** Лукашэнка аднойчы даў сваё акрэсленне беларускай нацыі. На яго думку, гэта значыць «быць рускім, але толькі лепш». Тут ён не мае рацыі. Мы заўсёды былі бліжэй да Захаду, паколькі Беларусь уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Мы талерантныя і цярплівыя. Нягледзячы на тое, што я ведаю рускую мову і размаўляю на ёй, я ніколі не скажу, што я рускі. Вось ужо дзесяць гадоў, як я – беларус.

**«Le Figaro».** Але быць сёння беларусам азначае выступаць супраць дзяржавы?

**Баршчэўскі.** Гэта сапраўды так. Нашая дзяржава па абсалютна ірацыянальных падставах змагаецца з праявамі нацыянальнага характару. Лукашэнка – парадаксальны прэзідэнт: ён не любіць сваю краіну.

**«Le Figaro».** А Еўропа?

**Баршчэўскі.** Мы аддаляемся ад яе. Мы стварылі ліцэй з беларускім выкладаннем на аснове французскіх навучальных праграмаў. Але вельмі складана падтрымоўваць яго функцыяванне з-за ціску ўлады, якая імкнецца ўсё русіфікаваць. У галіне адукацыі мы ўсё болей і болей вяртаемся да адміністрацыйных стандартаў.

**«Le Figaro».** А эліта глядзіць у бок Еўропы?

**Баршчэўскі.** У 1990-х гадах культурная эліта не магла вызначыць свае арыенціры паміж Расіяй і Еўропай. Але з таго часу, як Расія абрала лагер Лукашэнкі, эліта павярнулася да Еўропы і еўрапейскіх каштоўнасцяў. Згодна з дадзенымі шматлікіх апытанняў, каля 60% насельніцтва хацела бы інтэгравацца ў Еўропу. Дзвесце тысяч беларусаў жыве ў Польшчы, крыху болей у Літве. Адной нагой мы ўжо ў Еўропе. Адзінае, чаго нам не хапае, каб увайсці ў гэты свет, гэта – змена межаў.

**«Le Figaro».** І канешне, змена ўлады.

**Баршчэўскі.** Так. У нашай краіне ўлада блакуе ўсё. Возьмем, напрыклад, дзяржаўнае тэлебачанне. Яно займаецца антыеўрапейскай агітацыяй, вядзе сапраўдную прапагандысцкую вайну. Людзі ў разгубленасці. Яны ведаюць Еўропу. Яны бываюць там нават часцей, чым у Расіі, і адчуваюць да яе сімпатыю. Але працей усвядоміць нашае месца ў Еўропе, чым змяніць урад. Пасля пашырэння Еўрасаюзу стала цяжэй ездзіць у суседнія з Беларуссю краіны.

**«Le Figaro».** Прастора змяншаецца, так?

**Баршчэўскі.** Людзі расчараваныя. Межы закрыліся. Еўропа перабольшвае ролю Крамля, а расійскія палітыкі неаднойчы апякаліся з-за сваіх імперыялістычных поглядаў. Калі б сёння народ меў магчымасць выбіраць, ён выбраў бы Еўропу, але людзей збівае з панталыку прапаганда.

**«Le Figaro».** Раней чым казаць аб уступленні ў Еўрасаюз, усё ж трэба адрадзіць паняцце беларускай нацыі. Як вы лічыце?

**Баршчэўскі.** Безумоўна. Няма ніякай розніцы паміж прадстаўнікамі беларускай і літоўскай нацый, але ў нашай краіне культурная эліта слабейшая. Літоўская культура захавалася, а беларуская – не. Да 1956 года высокія дзяржаўныя пасады ў Мінску займалі не беларусы, а рускія. Пасля 1956 з'явілася некалькі беларусаў, але ўсе яны былі вернападданымі Масквы, якія слухаліся Хрушчова і разумелі яго з паўслова. У часе свайго візіту ў Мінск ён заявіў: «Чым хутчэй вы адмовіцеся ад сваёй мовы, тым хутчэй вы станеце камуністамі».

**«Le Figaro».** Сёння Літва з'яўляецца часткай Еўропы, а Беларусь – не. Як вы думаеце, чаму?

**Баршчэўскі.** З 1919 па 1939 Літва была незалежнай дзяржавай, і гэта стала вельмі сур'ёзным вопытам. У 1918 годзе 3% літоўцаў размаўлялі на роднай мове, тады як у нас чвэрць насельніцтва гаварыла па-беларуску. У нас не было гэтых дваццаці гадоў, неабходных для адраджэння мовы і нацыянальнага характару. У нас ёсць усе перадумовы, але іх вельмі цяжка скарыстаць.

**«Le Figaro».** У вас няма пачуцця адчаю?

**Баршчэўскі.** У параўнанні з 1930-мі гадамі нейкія зрухі ўсё ж адбыліся.

# «Васіль Быкаў. Вяртанне»

## *«Я песіміст, але такі песіміст, які прагне быць абвергнутым»*

«Чалавек, як і кожная жывая істота, ад Бога, нараджаецца свабодным» – гэтымі словамі пачынаецца і заканчваецца маналог Васіля Быкава, які лёг у аснову дакументальнага фільма «Васіль Быкаў. Вяртанне» рэжысёра Віктара Корзуна.

На экране толькі кадры пахавання пісьменніка, за кадрам гучыць яго голас. Але стужка не пакідае за сабой цяжкага сумнага ўражання. У фільме гучаць словы Быкава: «Я песіміст, але такі песіміст, які прагне быць абвергнутым». І з сумам адзначае, што пакуль нішто не абвергла ягоных думак. І калі бачыш сотні тысяч людзей, што прыйшлі развітацца з Васілём Быкавым 24 чэрвеня мінулага года ў мінскі Дом літаратара, часам з`яўляецца ўражанне, што калі трэба, рэчаіснасць усё ж можа аспрэчыць гэтую думку пісьменніка.

Кажа рэжысёр стужкі Віктар Корзун:

«Гэты фільм не мог не паўстаць. Стваралася ўражанне, што фільм робіцца сам, а мы яму толькі дапамагаем. Перад самым ад'ездам пісьменніка ў Фінляндыю я запісаў вялікае інтэрв'ю з ім. Увесь гэты час матэрыял чакаў свайго адпаведнага відэашэрагу, каб ператварыцца ў фільм: глыбіня думак Быкава не клалася на выпадковыя кадры».









І толькі хроніка з дня пахавання – гэтая непадпарадкаваная ніякім грамадскім інстытутам, а толькі пачуццю любові і смутку стыхія магла «ілюстраваць» ці абвяргаць быкаўскія словы пра народ, значнасць свабоды, мовы, незалежнасці.

Хроніка пахавання настолькі ўражвала, і не толькі людзей, якія не змаглі быць у той дзень каля Дома літаратара, а нават і тых, хто быў знутры гэтага відовішча, бо паказвала сапраўдную моц і веліч гэтай незвычайнай падзеі з розных ракурсаў: ад буйнога плана насоўкі ў дрыжэчых руках да здымкаў усёй працэсіі амаль з вышыні птушынага палёту.

Таму сааўтарамі фільма могуць лічыць сябе не толькі аператары, гукарэжысёры, мантажоры, але і ўсе незлічоныя людзі, якія былі ў той дзень у Мінску».

У нечаканай для сябе ролі прадзюсера выступае ў фільме спявачка Кася Камоцкая:

«Я цалкам разумела, што пасля смерці Быкава яго будуць імкнуцца «расцягнуць» у свае бакі розныя палітычныя сілы. А Быкаў – гэта такая з'ява, такая велічыня, якая належыць усёй Беларусі, усяму нашаму народу, усяму свету. Таму паспрабаваць зрабіць фільм, у якім не было б ніякай палітычнай афарбоўкі «звонку», а толькі думкі і словы самога Быкава, падалося мне вельмі важным. Канешне, палітыка ў гэтых думках ёсць. Як ёсць палітыка ў тварах людзей, што прыйшлі развітацца з пісьменнікам, у бел-чырвона-белых сцягах з жалобнымі стужкам, якія лунаюць над вялічэзным натоўпам. Пэўна гэтая палітыка і запалохала ўсіх, хто спачатку збіраўся дэманстраваць наш фільм, а пасля адмовіўся. Таму першую прэзентацыю фільма мы зрабілі ў Вільні. Вельмі важна, што людзі, якія прыйшлі на гэты паказ, у сваёй большасці не былі беларусамі. А наш фільм ішоў без літоўскіх тытраў. Нягледзячы на гэта, як мне падаецца, усе ўсё зразумелі ці адчулі. Пасля паказу было вельмі шчырае абмеркаванне. І болей абмяркоўвалі не шчыгулы фільму, а будучыню Беларусі. І гэта нас радуе».

Праз увесь фільм чуваць голас Васіля Быкава, голас мудрага чалавека, які высакародна пражыў цяжкае насычанае падзеямі жыццё, і шчыра дзеліцца сваімі развагамі, светлымі і горкімі думкамі, пачуццямі, і тысячы людзей, якія засведчаны кінакамерай, – гэта як слухачы вельмі важнай публічнай і адначасна інтымнай імшы, якую служыць вялікая, духоўна прызнаная ўсімі асоба, якая ўвасабляе душу народа.

**Алена МІКАЛАЕВА**

# Першая 50-годка

## Гутарка з гісторыкам і грамадскім дзеячам Алегам Трусавым з нагоды юбілею

Працяг. Пачатак на стар. 3

Адпаведна ў горадзе вясковыя людзі выпрацоўваюць насцярожанае стаўленне да партыйнай і грамадскай дзейнасці Сесці на пасаду, канечне, не адмовяцца, але думаць у паняццях карысці дзяржавы, сэнсу ўлады, доўгатэрміновай перспектывы, – гэтаму трэба навучыцца. Некалькі пакаленняў трэба пражыць, каб гэта стала натуральным. Вось мая жонка з палескай вёскі, наша дачка – першае пакаленне, якое вырасла ў горадзе, мая любімая ўнучка Алёнка – другое, вось калі ў яе народзіцца дзіця, дык гадоў можа праз 20–25 яно ўжо будзе правільна мысліць. Можа, і мяне будзе вучыць, калі дасць мне бог дажыць да гэтага светлага дня.

**– Вось ты, Алег, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, прычым у пераломныя гады, уласным голасам скасоўваў БССР і Рэспубліку Беларусь абвяшчаў. Ты меў шмат кантактаў і добра ўяўляеш наш патэнцыял прагрэсу і магутную масу інерцыі, назапашаную за дзесяцігоддзі савецкага таталітарызму. Што рабіць звычайным людзям? Чакаць, пакуль усе паразумнеюць?**

– Жыць, будаваць сваю дзяржаву, сваю культуру. Адмаўляцца ад бальшавіцкага «кавалерыйскага» мыслення – што можна адной рашучай атакай добрае жыццё заваяваць. Вось, маўляў, прыйдзе ў парламент цяперашняя апазіцыя – і пачнецца шчасце. Ці абяруць прэзідэнтам «адзінага кандыдата», прыкладам, Ганчарыка, – і нас чакае росквіт. Скуль? Ён, што, алхімік? Можа наш торф у золота абараціць? Знізіць падаткі? Павысіць заробкі? Людзі ж не дурныя, думаюць: а дзе яны возьмуць грошы на гэтыя абяцанкі. І не спяшаюцца мяняць быка на індыка. Бо ніхто ім не тлумачыць, дзе возьме і за кошт чаго. Вось у гэтыя дні пачалося вылучэнне кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. І на чым засяродзілася ўвага грамадскасці? Пра значнасць якіх падзеяў ім гавораць заявы і ўлёткі? Тлумачаць пра тое, што людзей мала цікавіць – пра закрыццё «люстэрка лібералізму» ЕГУ, хоць бальшыня нават не ведала пра існаванне гэтай платнай навучальнай установы. Канкрэтная праца заўжды цяжкая і няўдзячная. Лёгка лямантаваць пра свабоду для Беларусі, а вось зрабіць просты крок – перайсці на беларускую мову, неабходную для свабоды Беларусі, – мноства радыкалаў проста лянуецца ці баіцца. Якая карысць будзе для дзяржавы і народа, калі яны патрапяць у Нацсход. Якую прагра-му яны туды прынясуць? Маюць што прапанаваць ці будуць «асвойвацца», а потым жаліцца, што «рэжым» заціскае рот, выкручвае рукі, не дае пікнуць. А калі б даў пікнуць, дык, маўляў, мы б усіх у Еўропу прывялі. Ведаючы нашу гісторыю, магу параўнаць нашы выбарныя органы – і старадаўнія, і цяперашнія, і не думаю, што калісьці было прасцей, чым сёння. Людзі простыя павінны ведаць, што нічога яны не атрымаюць, калі будуць ціхмяна сядзець па сваіх хатах і кватэрах, чакаючы клопату ад добрага дзядзькі. Заўсёды і ўсюды той, хто хацеў жыць лепей і жадаў таго ж сваім землякам, быў актыўны і аб`ядноўваўся з аднадумцамі. Разам можна зрабіць тое, што не зробіш адзін.

**– Дзякуй, спадар Алег, за размову. Сто год табе, удачы і творчых поспехаў.**

**Гутарыў Кастусь ТАРАСАЎ**

# Гісторыя пенсій

## *Сусветны вопыт развіцця пенсійных сістэм*

**Ягор ГАЙДАР**

Першая арганізаваная дзяржавай сістэма пенсій па ўзросце для занятых у прыватным сектары была ўведзена ў Германіі ў 1889 годзе. Характэрная рыса нямецкага падыходу палягала ў тым, што сацыяльнае страхаванне было абавязковым і заснаваным на ўзносах. І працадаўцы, і працаўнікі павінны былі ўносіць сродкі на яе фінансаванне. Гэтая германская сістэма базавалася на папярэдняй практыцы існавання даабраахвотных фондаў узаемадапамогі, арганізаваных гільдыямі рамеснікаў і рабочымі аб'яднаннямі. Правы на пенсію ў новай сістэме давалі раней выплачаныя ўзносы. А вось Данія (1891) і Новая Зеландыя (1898) усталявалі сістэму пенсіявання, арыентаваную на мэтавую дапамогу бедным. Тут яна фінансавалася за кошт агульных падатковых даходаў, дапускала праверку стану беднасці і гарантавала роўны ўзровень выплатаў. Гэтыя пенсійныя сістэмы ў значнай ступені вынікалі з традыцыйнага заканадаўства аб бедных.

У наступныя гады бальшыня заходнееўрапейскіх краінаў сфарміравалі сістэмы пенсійнага страхавання, арыентаваныя на германскую мадэль. Але англасаксонскія краіны (за выключэннем ЗША) і краіны Паўночнай Еўропы пайшлі па шляху, пракладзенаму Даніяй і Новай Зеландыяй. Германская сістэма была арыентавана на захаванне сацыяльнага статусу працаўніка пасля выхаду на пенсію. Дацкая, прынятая пазней і ў Англіі, – на абмежаванне беднасці.

У XX стагоддзі адбываецца паступовае збліжэнне пенсійных сістэмаў развітых краінаў. Там, дзе яны былі заснаваны на страхавых узносах (Германія), уводзяцца гарантыі мінімальнай пенсіі, незалежныя ад папярэдніх узносаў. У краінах, якія арыентавалі пенсійную сістэму на роўныя пенсіі, фінансаваныя за кошт агульных даходаў, бюджэтаў, скасоўваецца кантроль патрэбаў. У дадатак да мінімальных пенсіяў уводзіцца сістэма абавязковага сацыяльнага страхавання (Вялікабрытанія).

У Паўночнай Амерыцы дзяржаўная сістэма пенсіявання па старасці атрымала распаўсюджанне даволі позна. Канада ўвяла сістэму, заснаваную на праверцы патрэбаў, якая не патрабавала страхавых узносаў, у 1927 годзе. У Злучаных Штатах урады штатаў пачалі ўводзіць пенсійныя сістэмы, заснаваныя на крытэрыі беднасці, у 1920-я гады. У 1935 годзе ў ЗША ўводзіцца федэральная сістэма пенсійнага страхавання.

Характэрная рыса пенсійных праграмаў – іх палітычная папулярнасць на этапе станаўлення. Гэта лёгка зразумець: людзі, якія выходзілі на пенсію, на працягу папярэдняга працоўнага жыцця не ўносілі ў поўным аб'ёме тыя плацяжы, якія забяспечваюць ім выплату пенсій. Яны з'яўляюцца нета-бенефіцыярамі (чыста прывілеяванымі) увядзення пенсійнай сістэмы. Цяжар выплаты пенсіяў кладзецца на наступнае пакаленне працаўнікоў.



Сістэма пенсійнага страхавання ўводзілася як механізм, які забяспечваў існаванне ў выпадку дасягнення ўзросту непрацаздольнасці. У ЗША на момант яе прыняцця большасць мужчын ва ўзросце старэйшым за 60 год працавалі. Аднак, як і ў выпадку з іншымі буйнымі сацыяльнымі інавацыямі, сістэма сама становіцца фактарам зніжэння ўзроўню занятасці ў пенсійным узросце. Сярод мужчын ва ўзросце 60 год і старэйшых у 1900 годзе 66% працавалі. У 1990 годзе працавалі толькі 26%.

З 1950 па 1990 год узрост выхаду на пенсію ў найбольш развітых краінах панізіўся з 66 да 62 гадоў. Каэфіцыент удзелу ў складзе працоўнай сілы асобаў ва ўзросце 60–64 гады ў 1960 годзе ў Бельгіі, Нідэрландах, Францыі перабольшваў 70%. Да сярэдзіны 1990-х гадоў ён панізіўся да 20%.

Дэмаграфічныя прагнозы падаюць, што за перыяд да 2030 года нагрузка пенсіянераў на працоўнае насельніцтва ў развітых краінах прыкладна падвоіцца. У дзяржавах «вялікай сямёркі» прагназуецца рост выдаткаў на пенсіі з 6,7% ВУП у 1995 годзе да 10,7% ВУП у 2030 годзе. Згодна з прагнозамі, выдаткі на сацыяльнае забеспячэнне вырастуць з 18,3% ВУП у 1990 годзе да 25,5% у 2050 годзе. З 1990 па 2050 год выдаткі на сацыяльнае забеспячэнне штогод будуць расці ў сярэднім на 1,9%.

Павышэнне пенсійных абавязацельстваў у наступныя дзесяцігоддзі задана логікай створанай напрыканцы XIX – у першыя гады XX стагоддзя сістэмы пенсійнага забеспячэння. Але яго можна прафінансаваць за кошт далейшага павышэння ўзроўню падаткаабкладання заработнай платы. У гэтым фундаментальная праблема ўстойлівасці сацыяльных інстытутаў, створаных у індустрыяльную эпоху, ва ўмовах постіндустрыяльнага грамадства.

* * *

Чылі – тая краіна, пенсійная рэформа ў якой паклала пачатак шматгадовым дэбатам па пытанні аб мэтазгоднасці і магчымасці пераходу да назапашвальнай сістэмы пенсійнага страхавання. Тут у 1970-х гадах стаўкі ўзносаў у сістэму размеркавальнага пенсійнага страхавання дасягнулі высокага ўзроўню і стымулявалі ўхіленне ад падаткаў. З 1981 года ў Чылі перайшлі да карыстання назапашвальнай сістэмай пенсійнага страхавання. Кожны працаўнік уносіў 10% заробку на пенсійны ашчадны рахунак у выбраным ім фондзе. Апроч таго, неабходна было плаціць каля 3% заробку на страхаванне на выпадак інваліднасці і страты кармільца і для пакрыцця выдаткаў фондаў па кіраванні. На момант выхаду на пенсію на індывідуальным рахунку назапашваецца сума, якая забяспечвае атрыманне даходаў у старасці. Дэфіцыт у такой сістэме немагчымы.

Пераход да назапашвальнай сістэмы сур`ёзна змяняе адносіны і працаўнікоў, і працадаўцаў да плацяжоў, накіраваных у назапашвальную пенсійную сістэму, асабліва ў тых выпадках, калі працаўніку даецца істотная свабода выбару чыну захавання і інвеставання сродкаў пенсійнай сістэмы, гарантуецца права атрымання назапашаных сродкаў яго спадчыннікамі. Гэтыя адлічэнні шмат у чым перастаюць успрымацца як падатак і робяцца дадатковым элементам аплаты працы.

* * *

З краінаў–лідэраў сучаснага эканамічнага росту толькі Вялікабрытанія зрабіла сур`ёзны крок у галіне пенсійнай рэформы (рэформа 1986 года), скіраваны на забеспячэнне права выхаду працаўнікоў і працадаўцаў з дзяржаўнай сістэмы пенсійнага страхавання, пераходу ў прыватныя сістэмы пенсійнага страхавання, якія забяспечваюць істотнае ўзмацненне пенсійных правоў і фактычна праведзеных узносаў. У большасці астатніх краін–лідэраў рэформы мелі больш абмежаваны характар.

Пераход да назапашвальных пенсійных сістэмаў азначае, што найменш частка плацяжоў, якія будзе праводзіць цяперашняе пакаленне працаўнікоў, пойдзе на іх уласныя рахункі і фінансаванне іх уласных пенсіяў, а не на выплату пенсіяў цяперашняму пакаленню пенсіянераў. Але скасаваць абавязацельствы перад апошнімі ва ўмовах дэмакратычнага грамадства немагчыма. Выходзіць, для пераходу на назапашвальную сістэму пенсіявання патрэбны значныя фінансавыя рэсурсы, і ўрады, не маючы свабодных сродкаў, будуць змушаны скарыстоўваць розныя непапулярныя меры.

З пачатку 1980 гадоў, калі крызіс пенсійных сістэмаў стаў відавочны, ідзе працэс павышэння пенсійнага ўзросту (Германія, Грэцыя, Італія, Партугалія, Вялікабрытанія), мінімальнага стажу працы, неабходнага для атрымання поўнай пенсіі (Германія, Грэцыя, Італія), узмацненне жорсткасці ўмоваў больш ранняга пенсіявання (Францыя, Германія). Адносіны сярэдняй пенсіі да заробкаў былі зніжаны за кошт увядзення больш жорсткіх механізмаў індэксацыі (Аўстрыя, Фінляндыя, Францыя, Германія, Грэцыя, Італія, Галандыя). Адбываецца скарачэнне перыяду, на працягу якога больш працяглая праца прадугледжвае павелічэнне базы пенсійных выплатаў (прынялі ўсе названыя вышэй краіны), скарачаюцца пенсійныя прывілегіі для занятых у дзяржаўным сектары (Фінляндыя, Грэцыя, Італія, Партугалія).

* * *

Старэйшыя ўзроставыя групы адрозніваюцца мэтанакіраванасцю ў выбары сваіх палітычных прыярытэтаў. Найбольш важным для іх з`яўляецца тое, што адносіцца да дзяржаўных субсідыяў, якія накіроўваюцца пенсіянерам. Мноства палітыкаў перакананыя, што галасаванне старэйшых узроставых групаў у вялікай ступені залежыць ад пазіцыі кандыдатаў у адносінах да пенсійнага забеспячэння, чым пазіцыя любой іншай групы з любой іншай нагоды. Часопіс «Форчун» правёў апытанне 329 знаўцаў унутранага жыцця Вашынгтона. Гэтых рэспандэнтаў прасілі ацаніць уплыў 120 груп інтарэсаў на палітычныя рашэнні. Вынікі паказалі, што Амерыканская асацыяцыя пенсіянераў – мацнейшае лобі ў Вашынгтоне.

*Ng.ru*

Павел ЯСЕНІЦА

# Літоўская калізія

**Кніга Паўла Ясеніцы (сапр. Лех Бейнар) «Польская анархія» прыцягнула маю ўвагу даўно. З часам я ўсё больш хацеў, каб з ёю пазнаёміліся шырэйшыя колы беларусаў. Прычыны гэтага жадання я хачу трохі растлумачыць.**

**Па-першае, гэтая кніга паўстала з дыскусіі, якая разгарэлася была на старонках польскае прэсы ў 1961 годзе па ініцыятыве Паўла Ясеніцы. У спрэчках узялі ўдзел больш за пятнаццаць аўтараў: гісторыкаў і публіцыстаў. Адсюль ейны пафас і публіцыстычнасць. Адсюль надзённасць узнятых праблем, хаця гаворка тычыцца часоў вельмі даўніх. На жаль, у Беларусі культура дыскусіі сёння амаль адсутнічае, няма нават шырэйшага ўсведамлення неабходнасці публічна абмяркоўваць важныя для грамадства праблемы. Можа, праца польскага вучонага дапаможа зразумець, што мы губляем, пазбягаючы публічных спрэчак.**

**Па-другое, перачытваючы «Польскую анархію», я кожны раз здзіўляўся актуальнасці закранутых у ёй праблем для нас, беларусаў. Ішлі гады, мяняліся ўлады – актуальнасці толькі болела. Можа таму, што наша грамадства апынулася ў той жа сітуацыі, што ў Рэчы Паспалітае па смерці апошняга Ягелона: найважнейшыя справы трэба вырашаць тэрмінова і не маючы ў іх ніякага досведу. А можа, аўтар ухапіў тыя істотныя рысы гістарычнага шляху нашых народаў, якія захоўваюцца стагоддзямі.**

**Па-трэцяе, кніга даволі ўзважана трактуе пытанні шматнацыянальнага характару Рэчы Паспалітае. Аўтар з павагаю паставіўся да беларусаў, украінцаў і летувісаў, вельмі крытычна – да тых палякаў, якія паддаліся імперскім ілюзіям.**

**Я думаю, нам у Беларусі не хапае кніг, дзе на першым месцы не гістарычныя міфы, а пошук ісціны, аналітычнае пераасэнсаванне мінулага для патрэб далейшага развіцця нацыі.**

**Пераклад зроблены па выданні *Pawel Jasienica. Polska anarchia. Krakow, Wydawnictwo Literackie, 1988.***

**Даніла ЖУКОЎСКІ.**
**Горадня**

На заходнім ускрайку Рудніцкае Пушчы над прыгожаю Мерачанкай трохі вышэй месца, дзе ў яе ўліваецца малая лясная рэчка Сольча, ляжыць мястэчка Алькенікі. На чыгуначным шляху з Варшавы ў Вільню ёсць маленькая станцыя з гэткай назваю, але месца падзеяў, пра якія зараз будзе гаворка, з вокнаў цягніка нябачнае. Тамтэйшыя мясціны вельмі бедныя і вызначаюцца змрочным каларытам: пяскі, парослыя соснамі. У апошнюю восень XVII стагоддзя пад Алькенікамі стала табарам канфедэрацыя літоўскае шляхты. Амаль што дванаццацітысячнае войска доўга пакутавала ад холаду, пакуль не прыйшла вестка, што па гарадзенскім тракце набліжаецца вораг – Казімір Ян Сапега, вялікі гетман літоўскі і ваявода віленскі.

Было гэта ў лістападзе 1700 году, амаль на самым пачатку панавання Аўгуста II Моцнага, караля Рэчы Паспалітае Абедзьвюх народаў і князя Саксоніі. Новы манарх некалькі гадоў раней паспеў ужо быў зменшыць літоўскае войска і арганізаваў у Горадні цырымонію публічнага ламання штандараў развязаных палкоў. Праліццё крыві падданых у грамадзянскай вайне яго не вельмі непакоіла. Аўгуст меў намер падтрымліваць у краіне лад, абапіраючыся на ўласныя, нямецкія, апранутыя ў чырвань аддзелы.

Стварыць адпаведныя ўмовы мусіла супольная з расейскім царом Пятром I і дацкім каралём Хрысціянам кампанія супраць Швецыі. Ваенныя дзеянні ўжо распачаліся, і распачаліся няўдала. Не атрымалася знянацку захапіць Рыгу. Камандзір шведскага патруля заўважыў, што ў вазах, якія ноччу цягнуліся ў горад нібыта на кірмаш, вязуць зброю, а сяляне пры вазах – насамрэч пераапранутыя саксонскія грэнадзёры. У жніўні васемнаццацігадовы Карл XII задаў паразу Даніі і накінуў ёй мір.

Аўгуст не патранаваў шляхце, што сабралася пад Алькенікамі. Яна пачала хваляваццa ды хапацца за зброю яшчэ ў панаванне ягонага папярэдніка. Ян III быў тым, хто вырашыў скарыстаць даўні, на стагоддзі закінуты спосаб. Досьвед навучыў яго, што штурханне аднаго вялікага пана супраць другога не дае плёну: назаўтра пасля перамогі ранейшы фаварыт мяняе фронт і пачынае рабіць акурат тое, што ягоны папярэднік. Магнат, зрынуўшы магната, адразу ж займае ягонае месца. Каралю замінaлі Пацы. Ён падтрымаў Сапегаў. Калі апошнія атрымалі перамогу, Ян III падбухторыў шляхту, незадаволеную магнацкім прыгнётам.

Няхай сучаснікі ўласнымі словамі патлумачаць нам, чым былі тады ў Літве род Сапегаў. «Найперш, Казімір Ян Сапега быў віленскім ваяводам і вялікім гетманам. Брат ягоны, Бэнэдыкт, – падскарбім Вялікага Княства Літоўскага. Сыны ж Казіміра Яна Сапегі адзначаныя былі такімі годнасцямі: адзін быў вялікім маршалкам, другі стольнікам, трэці канюшым Вялікага Княства Літоўскага (а таксама, дадамо ад сябе, генералам артылерыі літоўскае, генерал-маёрам войскаў імператара Леапольда). Пры гэтым усе з вялікімі ўласнымі фартунамі, а да таго рознымі ад каралёў і Рэчы Паспалітае бэнефіцыямі, староствамі ды наданнямі падтрыманыя... І скарб Вялікага Княства Літоўскага перахоўваны быў у доме сапежанскім...».

Наіўная справаздача тлумачыць лепей за ўсе аналітычныя даследаванні «механізмаў». Багацце, пра якое і марыць не магла скарбніца ў Варшаве, ды сабраныя ў адной сям'і найважнейшыя пасады – пажыццёва і безсправаздачна! У Рэчы Паспалітае Абедзвюх Нацый толькі каралеўскае ўлады не хапала, магнацкая ж дасягала незвычайнае канцэнтрацыі. У гэтай справе Літва выразна перасцігала Польшчу. Былі ў Сапегаў і папярэднікі: Пацы, Радзівілы, Гаштольды.

Ян III штурхнуў шляхту на вяльможаў. Аднак зброя, якую дванаццаць год таму з посьпехам ужыў Ян Ольбрахт, гэтым разам здрадзіла. Папсулася, пакрылася іржой. Занадта доўга перахоўвалася ў шуфлядзе. Самае ж галоўнае: адвыкла служыць адпаведным рукам.

«Уся амаль Польшча гаманіла, што дзеля калізіі літоўскае гіне», – напісаў ананімны аўтар «Літоўскае кронікі», што належыць да таго часу. Базыліянін, ксёндз Ян Альшэўскі пакінуў пасля сябе твор з назваю, якая добра перадае і літаратурныя густы таго часу, і каларыт падзеяў: «Апісанне няшчасцяў і нутранога разладу, вайны Кароны Польскае і Вялікага Княства Літоўскага pro informatione патомным у будучых часах асобаю духоўнаю пераказанае і з жаласцю выкладзенае». Дзённік няпэўнага аўтарства, традыцыйна прыпісаны Эразму Атвіноўскаму, сцвярджае, што пад канец XVII стагоддзя людзі тысячамі ўцякалі з Літвы: «адны пабеглі ў Інфлянты, іншыя ў Прусы Брандэнбургскія, cum infallibili salutis iactura ў кальвіністых, у лютэранаў абярнуўшыся». Нават прыязны для Сапегаў біскуп Ян Хрызастом Жалускі мусіў прызнаць,

Працяг на стар. 8 – 9



 



# Літоўская калізія

Працяг. Пачатак на стар. 7

што «зчэзлі ў Літве права, справядлівасць, сорам; усё падлягае мячу, кіруе мацнейшы, парадак заступіла дзікая сваволя. Баяцца трэба, каб за гэткі прыгнёт шляхты, хаця й ня хутка, не наступіла б кара Божая...»

«O, quam pulchurum spectaculum!» – вымавіў аднае ночы «літоўскі Макіявелі», падскарбі Сапега, прыглядаючыся палаючай шляхецкае вёсцы. Звычайна, аднак, не трэба было ўжываць нагэтулькі вострыя сродкі пацыфікацыі. Пабскарбіеў брат, гетман, меў надзейны сродак – кватарунак войска. Жаўнераў ды іхніх коней трэба было карміць, але гэта не ўсё. У тагачасным літоўскім войску кожны таварыш гусарскі, уланскі або пяцігорскі меў права трымаць да двух дзесяткаў службы, «якім не паны плацілі, але яны панам, даючы ад кожнага па талеры бітым у тыдзень, а іншы нават болей, а да гэтага і пана, і сябе ўтрымлівалі, і такім дазвалялася рабаваць, што хацелі, калі на чаты выходзяць». Хіба дзіва, што пры такім парадку нутранай службы вёскі пусцелі, «што і знаку, дзе будынкі былі, не заставалася»?

Ян III перацягнуў быў на свой бок віленскага біскупа Канстанты Казіміра Бжастоўскага. У 1689 годзе на сойме ў Варшаве пасол Казімір Станіслаў Дамброўскі, верны саюзнік спачатку Пацаў, а потым Сапегаў, ударыў гіерарха. У палаце заблішчэлі шаблі, а біскуп Міхал Кадзееўскі наклаў на сталічныя касцёлы інтэрдыкт, адразу ж, што праўда, зняты нунцыем. (Спрэчка біскупа з гетманам не мела татальнага характару і не выключала згоды ў іншых справах. Якраз тады Сапега выдаў Бжастоўскаму няшчаснага Казіміра Лышчынскага, у хуткім часе пакаранага смерцю нібыта за атэізм і, несумненна, за вальнадумства.)

Праз пяць год, ужо ў сябе ў Вільні, Бжастоўскі зноў выкарыстаў царкоўныя санкцыі. Восьмага красавіка 1694 года за спусташэнне царкоўных маёнткаў сапегавымі татарамі ён абвясціў праклён. У час, калі біскуп асабіста прамаўляў анафему з касцельнае кафедры «пан гетман на Антокалі з пагарды да біскупа загадаў страляць з гарматаў». І гэтым разам у спрэчку ўмяшаўся нунцый. Кат на віленскім пляцы публічна спаліў тэкст анафемы. Гэтак схацеў Сапега.

У 1696 годзе ў Берасці паўстала першая антысапегаўская канфедэрацыя шляхты. Яе ачоліў Рыгор Агінскі, харужы літоўскі. Яго падтрымлівалі Пацы і род Крыспін-Кіршэнштайнаў, мяшчанаў родам з Каралеўца, якіх Ян III свядома высока авансаваў. Кароль, як добра відаць, старанна засцерагаўся, разумеючы, што на чало чыста шляхецкага руху непазбежна высунуцца іншыя магнаты, і шукаў нейкае супрацьвагі.

Гетман аблажыў Агінскага ў самым Берасці і голадам змусіў да перамоваў. Сышліся на кульгавым кампрамісе. Пад гукі званоў і ўрачыстага «Te Deum» Сапега ўехаў у горад.

Ранняю вясною 1698 года канфлікт зноў завастрыўся (так дзіўна складалася, што гвалтаўнейшыя сутычкі адбываліся па цотных гадах). Частка войскаў адмовіла паслушэнства гетману. Агінскі сабраў сваіх паміж Дубісаю і Нявяжай. Рыхтуючыся да энергічных дзеянняў і жадаючы ўмацаваць мужнасць шляхты, ён паабяцаў ёй рабунак Коўні. Аднак раней, чым гэты намер ўдалося ажыццявіць, Сапега зачыніў канфедэратаў паміж Нёманам і Нявяжаю. Не прыняўшы бітвы, канфедэрацкі маршалак распусціў аддзелы, аддаўшы ворагу абоз, запасы, харугвы.

22 ліпеня Аўгуст II давёў справу да замірэння. Аднак у той самы момант, калі прадстаўнікі варагуючых бакоў ставілі ў Варшаве подпісы пад мірным пагадненнем, на літоўска-прускім памежжы адбыліся падзеі, што канчаткова зрабілі замірэнне немагчымым. Пад Юрбаркам Міхал Сапега, пра якога мы зараз будзем гаварыць шырэй, ударыў франтальным прыступам на канфедэратаў, што зноў былі згуртаваліся. Напачатку шляхта білася мужна, але не вытрымала гарматнага агню. Лёгкія татарскія харугвы перасьледавалі расцярушанае шляхецкае войска. На полі засталося некалькі соцень трупаў, шмат параненых патанула ў Нёмане, недабіткі ўцяклі ў Прусію.

Толькі цяпер Сапегі, асабліва маладога веку, разгуляліся бязстрымна, трацячы павагу нават уласнага войска, якое не так ужо прагнула крыві. Шчэ перад юрбарскаю сутычкаю прадстаўнікі сіл Сапегаў у Шкудах заключылі перамір'е са шляхтаю. За самаволю і несубардынацыю гетман загадаў пакараць смерцю – адсекчы галаву або расстраляць – абодвух перамоўнікаў: Бакея і Караля Белазора.

У жніўні таго ж 1698 году ў Вільні паўстала новая канфедэрацыя. Яе правадыром стаў Міхал Казімір Коцел, віцебскі кашталян. Тут варта зрабіць адступленне, бо ягоная постаць заслугоўвае трохі ўвагі.

У наднёманскім мястэчку Беніца пан Коцел збудаваў для сябе палац, а для Творцы і для бернардынаў – касцёл і кляштар. Ён загадзя падрыхтаваў мураваную магілу ў бажніцы, і, адчуўшы блізкі канец, выклікаў мастака ды загадаў зрабіць свой партрэт. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя можна было агледзець у беніцкім маёнтку гэты твор. На ім быў адлюстраваны апрануты ў кунтуш шляхціц, а ля ягоных ног – пукатыя мяхі з лічбамі на баках. Перад сконам пан сказаў быў, што пазначаную на мяхах суму бярэ з сабою ў магілу і не дазволіць яе нікому рушыць, хіба толькі «касцёл да астатэчнае дайшоў бы інфляграцыі». Хто толькі потым ня шукаў гэтых грошай! Ксёндз касцёла, калі на ім згарэў дах, родзічы аднаго з польскіх пісьменнікаў... Пан Коцел быў, відаць, схільны да чорнага гумару.

Ён памёр у 1722 годзе. Статэчныя гмахі паўставалі ў Беніцы якраз тады, калі «літоўская калізія» дасягнула апагею: у 1700 годзе, які ад пачатку неяк няўдала складаўся для Сапегаў.

У лютым выбары маршалка літоўскага трыбунала адбыліся не паводле іхняга жадання. Пры падтрымцы двух князёў Вішнявецкіх пасаду заняў Караль Радзівіл. Хутка пасля гэтага звычайны выпадак выклікаў фатальныя наступствы. Вуліца св. Яна ў Вільні вельмі вузкая, і менавіта там картэж гетмана нечакана сутыкнуўся з экіпажам Вішнявецкіх, чые коні зусім выпадкова былі вельмі падобныя на коней пана Коцела. Людзі Сапегаў абстралялі карэту, пашкодзілі яе рапірамі. Пакуль высветлілася, што адбылася памылка, абодва князі пацярпелі. Прабачэнні не далі плёну, можа таму, што адзін Вішнявецкі меў дваццаць два гады, а другі – на два менш. Канфедэрацыя займела магутных хаўруснікаў іхнім прыватным войскам.

У ліпені кароль заклікаў да мабілізацыі дзеля аховы межаў. Прагнозы не спраўдзіліся: Швецыя, якую Аўгуст II, Пётр I і Данія лічылі лёгкаю здабычай, сталася небяспечным праціўнікам, адразу ж атрымаўшы перавагу.

Абедзьве літоўскія партыі тут жа паслухаліся каралеўскага ўніверсалу. Гетман звербаваў новыя палкі, шляхта пайшла ў паспалітае рушэнне. Пан Коцел сабраў яе ў самым сэрцы Вялікага Княства, пад Ашмянамі. («Ашмянскі павет у віленскім ваяводстве», – піша Эразм Атвіноўскі, – «нагэтулькі перавышае колькасцю шляхты іншыя, што можна яго in longitudine et latitudine лічыць за ваяводства; на павет гэты глядзіць уся Літва, як Малапольшча на ваяводства сандамерскае».) Баявы шлях прывёў канфедэратаў пад Алькенікі. Туды ж накіраваўся гетман на чале трох тысяч войска. Абодва бакі пякліся пра канчатковы парахунак паміж сабою, а не са шведамі.

Амаль у апошнюю хвіліну, у карчме ў Ляйпунах, біскуп Бжастоўскі, суфраган Згерскі і канонік Шаняўскі дарэмна дамагаліся прымірэння бакоў.

18 лістапада 1700 года яшчэ перад світаннем гетман скіраваў да Алькенікаў конны татарскі аддзел у сто восемдзесят чалавек. У той самы час дванаццацітысячная канфедэрацкая армія выйшла з табару, пакінуўшы яго пад аховаю двух харугваў. Сутыкненне адбылося ля гарадзенскага тракту.

Днела, калі пачаліся сутычкі кавалерыстаў. Гарматны залп з боку Сапегаў знішчыў некалькі дзесяткаў коннікаў, але ў гэты момант на тыл войскаў гетмана абрынулася варожая кавалерыя.

Ноччу на дапамогу канфедэратам прыйшлі яшчэ некалькі тысяч шабляў. Іх прывялі Рыгор Агінскі і стражнік літоўскі Людвік Канстанцін Пацей. Яны ня прылучыліся да асноўных сілаў, але зрабіўшы вялікі круг, лясамі зайшлі ў тыл ворагу. Гук ягоных гарматаў паслужыў ім за сігнал да атакі. З фронту рушыў свае сілы дваццацігадовы Міхал Серваці Вішнявецкі, «найвышэйшы палкоўнік ваяводзтваў і паветаў». Шляхецкая конніца ахапіла колам трохтысячнае войска Сапегаў.

Гетман з братам Бэнедыктам адразу зразумелі, што можа здарыцца, і пакінулі поле. Паўнамоцтвы перайшлі да Міхала, канюшага, таго самага, які два гады раней вызначыўся пад Юрбаркам. Мужней за ўсіх на баку Сапегаў біліся татары. Тры іхнія харугвы на левым флангу вырваліся з акружэння. Аддзелы мясцовага фармавання і замежныя наёмныя войскі біліся ня вельмі ахвотна. Затое шляхта, ведаючы, што яе чакае ў выпадку паразы, «апошнім трымалася азартам».

Кавалерыйская бойка на шаблях цягнулася ўвесь кароткі лістападаўскі дзень. Вечарам Сапега выправіў парламенцёра. Яго застрэлілі раней, чым ён прыбыў на вызначанае месца. Сцямнела і пачаў падаць сняжок, калі канюшы з паўтарыма тысячамі ацалелых склаў зброю перад Вішнявецкім. Князі паабяцалі яму захаванне жыцця, асабіста адвезлі яго да Алькенікаў і змясцілі ў францішканскі кляштар.

Яны не жадалі смерці палоннага. Вялікую ролю тут адыгрывала саслоўная магнацкая салідарнасць, дзеля якое некаторыя вяльможы з-за Буга, афіцыйна захоўваючы нейтральнасць, пацíху ўсё ж спрыялі Сапегам. Перад самай алькеніцкай баталіяй вялікі гетман каронны Станіслаў Ябланоўскі даслаў ім у дапамогу трохі жаўнераў, якія паводле загадаў ішлі пакрыёму, групкамі па дзесяцьдваццаць чалавек, пераапранутыя і з прыхаванаю зброяй.

Магнацкая салідарнасць была несумненна, але не толькі яе трэба ўлічваць. Мусіла адыграць сваю ролю асабістая культура. Шмат тут гаварылася благога пра вяльможаў, хаця б тых жа Пацаў. Але гэта ў часы іхняе, несумненна шкоднае, перавагі ў Літве, на іхні загад ды за іхнія грошы, паўстаў у Вільні на Антокалі касцёл св. Пятра і Паўла, адзін з найпрыгажэйшых помнікаў барока на кантыненце.

У Алькеніках трыумфаваў шляхецкі тлум. Па мястэчку бадзяліся ватагі п'яных да азвярэння. Коцел, Агінскі і жамойцкі харужы Станіслаў Заранак не шкадавалі гарэлкі. Усю ноч яе разносілі куфлямі. Пад шаблямі паноў-браці гінулі ўзятыя ў палон прыхільнікі Сапегаў. Гэтак былі забітыя браслаўскі староста Міхал Война і тамтэйшы харужы Мірскі. Нястомна шныпарыў і пад'юджываў шляхту «крывавы ксёндз», віленскі канонік Кшыштаф Белазор, родны брат забітага па загадзе гетмана Караля. Ён дапяў свайго толькі ўранку, калі шляхта – «супраць Богу і сумленню забавязанне пад прысягай абяцанае зламаўшы і слова ня стрымаўшы... будучы ад перапітку зграяю зухвалай і ў заядласці і гневе болей на звяроў дзікіх чым на людзей падобнай, ніякае зверхнасці князёвае ня рэспектуючы...» кінулася на кляшторны будынак, які ахоўвала варта.

Жаўнеры Вішнявецкіх у зацятай бойцы ўтрымалі дзьверы. Але на даху варты не было. Паляцела ўніз гонта, латы, кроквы. Адарвалі дошкі столі. Вязень убачыў над галавою раз'юшаныя пысы, а праз акно ў пакой улез канонік Белазор. Перад абліччам смерці Міхал Сапега стаў на калені перад святаром, просячы выслухаць апошнюю споведзь. «Вось табе адпушчэнне!» – крыкнуў ксёндз, б'ючы яго ў твар.

Вішнявецкім здалося было, што яны паспелі ў апошнюю хвіліну. Стаўшы паабапал палоннага, князі павялі яго да карэты. У гэты момант нейкі Свідэрскі ўдарыў яго ззаду так, што той упаў. «Князі ледзьве ўратаваліся ўцечкаю, там жа furor populi здзекаваўся з ахвяры: цела, пасечанае жахліва на кавалкі тры дні ў брудзе і слоце на вуліцы ляжала».

Біскуп Бжастоўскі таксама спрабаваў несці ратунак, ды сам з цяжкасцю ўратаваўся, схаваўшыся ў касцёле.

«Так завяршылася была над домам Сапегаў Рэчы Паспалітае вікторыя». Праз няпоўныя два тыдні пасля Алькенікаў, 30 лістапада, Карл XII разграміў пад Нарваю войска Пятра Вялікага. У



 

пачатку 1702 года шведы захапілі Вільню, 24 траўня былі ў Варшаве, 7 жніўня – у Кракаве.

Абсалютна дакладна, што на той час дабро краіны не вымагала ўдзелу ў кааліцыі і вайны са Швецыяй. (Са свайго боку Карл XII таксама зрабіў катастрафічную памылку, адкінуўшы насуперак меркаванням дарадцаў прымірэнчыя прапановы польскага Сенату. Геніяльны тактык ня меў аніякага пачуцця палітыкі і стратэгіі.) Падсумаванне, а хутчэй супастаўленне, якое трэба зараз зрабіць, мае значэнне для агульнае ацэнкі сітуацыі, а ня толькі для кампаніі, што на той час адбывалася.

Пад Алькенікамі з абодвух бакоў білася каля 16 тысячаў чалавек. Папярэднія сутычкі таксама абышліся Літве нятанна. Семнаццаць гадоў раней Вялікае Княства даслала на венскі паход Яна III дванаццаць тысячаў войска. Яно ня ўдзельнічала ў бітве. Спазнілася, бо так пажадаў гетман, той самы Казімір Ян Сапега. У дзень бітвы войска было яшчэ ў Польшчы, паблізу Кракава. Потым яно ганебным чынам спусташыла ні ў чым ня вінаватую Славакію, настройваючы венграў супраць палякаў і марнуючы планы караля аб супрацы з імі. 11 лістапада 1683 года Ян III пісаў жонцы: «Літва валачэцца ззаду, абмінаючы ня толькі турэцкія фартэцыі, але і межы. Войска літоўскае было ад нас ужо ў некалькіх мілях, але ня дало знаку аб сабе, і старшызна ня прыехала да нас паперад войска, як павінна – засталіся чамусьці зноў у імператарскіх кватэрах у Левэнкю, нішчачы іх дазвання ў чаканні нейкіх гарматаў, у каго ж з іх яны будуць страляць, мы згадаць ня можам. Досыць будзе, што ад Віліі дацягнуцца да Цісы, ад табара да табара, ня ўбачыўшы непрыяцеля».

Гэткі стыль паводзінаў меў традыцыю. Калі ў лістападзе 1673 году вялікі гетман каронны Ян Сабескі здабыў бліскучую перамогу пад Хацімам і хацеў яе цалкам выкарыстаць, ягоны літоўскі калега Міхал Пац забраў большую частку свайго войска і рушыў дахаты. Пры тых жыхарах Кароны, якіх не здэмаралізаваў учынак Паца, застаўся да канца Міхал Казімір Радзівіл, польны гетман, з тысячаю войска. Тое самае дакладна паўтарылася восенню 1674 года, калі экс-гетман Сабескі быў ужо Янам III. Армія Рэчы Паспалітае дасягае поспеху, ёсць магчымасць перанясення ваенных дзеянняў на варожую тэрыторыю – Пац адыходзіць у Літву, у табары застаецца Радзівіл. Мала дапамог поўны абурэння каралеўскі загад паводле якога дэзерцірам забаранялася «звацца імем жаўнерскім». Пац заставаўся на пасадзе да канца жыцця. Пасля яго яе заняў Сапега і чыніў тое самае, што ягоны папярэднік. Адна складовая частка Рэчы Паспалітае адпрэчвалася, сабатавала палітыку ўласнага манарха.

У памяць тае падзеі гербы літоўскіх шляхецкіх радоў, якія ўзялі ўдзел у бітве пад Венаю, змешчаныя ў гарадзенскім касцёле бернардынаў (тым самым, дзе пачынаецца дзеянне «Апошняга Сойму Рэчы Паспалітае» Рэйманта) на сценах галоўнага нефа. Гэта пераканаўчае сведчанне дзейнасці Яна III, які штурхаў шляхту супраць магнатаў. Мэтаю было



здабыццё рэальнае дзяржаўнае ўлады.

У 1683 годзе Вялікае Княства не дапамагло каралю, які меў намер не толькі перамагчы небяспечнага ворага на чужой тэрыторыі, ня нішчачы сваёй, але і здабыць за Карпатамі апору для рэформы ў краіне. Праз два дзесяцігоддзі яно ж марнавала свае сілы ў грамадзянскай вайне. Атрымаўшы перамогу, шляхта выкарыстала яе катастрафічным і ганебным чынам.

Абодва старэйшыя Сапегі, гетман і падскарбі, пераапранутымі ўцяклі да прускае мяжы, перайшлі землі электара і спыніліся толькі ў Лідзбарку ў Варміі, у біскупа Залускага. З часам яны апынуліся на баку шведаў, стаўшыся зацятымі (на пэўны час!) прыхільнікамі Карла, і шукалі помсты пры ягоным баку. Іхнія ворагі, натуральна, адразу ж пацягнуліся ў супраціўны бок. Не азіраючыся на Карла ды і на свайго караля, які лавіраваў і аддаў бы перавагу міру, Вялікае Княства ўвайшло ў хаўрус з царом, выступіўшы як «Рэч Паспалітая Літоўская». Пятру далі крэпасць у Друі, дазволілі ўвесці ў краіну войскі і свабодна ў ёй гаспадарыць. 19 чэрвеня 1702 году з'явіўся зварот цара да літоўскіх «бурмістраў, райцаў, лаўнікаў, мяшчанаў ды ўсяго паспольства». У ім абяцаліся розныя дабрадзействы і змяшчалася запрашэнне да перасялення ў глыб Расеі. Пётр абвясціў пратэктарат над Літвою. Пастановы Люблінскае вуніі страцілі сілу. Царскія інструкцыі дыпламатам, вядома ж таемныя, выразна выяўляюць імкненне да поўнага разрыву лучнасці Вялікага Княства з Каронаю і прыняцця яго пад руку Масквы.

Апораю прарасейскае партыі ў Літве былі пераможцы з-пад Алькенікаў. На першае месца зноў выбіўся Міхал Сервацы Вішнявецкі: яго сумленне суцішыла прапанова гетманскае булавы. «Афіцыйны рэзідэнт Вялікага Княства Літоўскага» пры асобе цара, канонік Кшыштаф Белазор ніколі ня меў гэткіх амбіцыяў. «Крывавы ксёндз» падпісваў дамову Вільні з Масквою, падарожнічаў разам з Пятром Вялікім у Архангельск. Яму было пра што ўспомніць у вязніцы, куды ён трапіў быў на некалькі год, схоплены ў 1708 годзе аддзелам сапегавых войскаў. Ад кары смерці яго выбавіла ўмяшанне віленскага капітулу, а вызваленне прынесла перамога ягонага патрона пад Палтаваю.

Грандыёзны жарт гісторыі: захаванне і ўмацаванне лучнасці Польшчы з Літвою выклікана было ў значнай ступені маскоўскаю пагрозай. Смела можна сцвярджаць, што Люблінскай вуніі дапамаглі Васіль III ды Іван Жахлівы, якія захапілі Смаленск і жадалі атрымаць Кіеў, Галіч і ўсё іншае аж па «Белую Ваду», або Віслу. Цяпер у крытычны момант Літва самахоць ішла пад патранат дзяржавы, што была ейным, а не Кароны, адвечным ворагам. Вядомы нам па Алькеніках Станіслаў Заранак ездзіў у Варшаву пасолом Вялікага Княства з мэтаю супрацьстаяць міралюбным і нейтралісцкім тэндэнцыям, што пераважалі былі ў Польшчы. Прыняўшы пратэктарат Пятра, Вільня цягнула за сабою Варшаву. У 1704 годзе ўся Рэч Паспалітая ўвайшла з ім у хаўрус, які на справе быў дыктатураю цара.

Дзяржава на той час мела дрэннага кіраўніка. Ублытаўшыся ў вайну, Аўгуст II зрабіў сапраўднае злачынства. Калі ж у 1701 годзе ён ачомаўся і паспрабаваў выйсці з яе, літоўскія падданыя стварылі незваротную сітуацыю. Тыя хаўрусавалі з Карлам, іншыя – з Пятром. Шэрая маса ў Кароне марыла пра спакой, магнатаў жа можна было купіць.

Часова разарваную паслабленую польска-літоўскую вунію ўдалося аднавіць. Толькі вось сапраўдная суверэннасць ужо не вярнулася. Калона Жыгімонта, як вядома, засталася ў Варшаве выключна таму, што Пётр I не знайшоў спосабу перавозу яе ў Санкт-Пецярбург. Аўтар памянёнай вышэй Кронікі казаў праўду: Рэч Паспалітая гінула. Дзяржава перастала існаваць пад канец XVIII стагоддзя, прыкладна праз чвэрць стагоддзя пасля венскае перамогі Яна III.

Мы прызвычаіліся лічыць, што найсумнейшым раздзелам нашае гісторыі ёсць эпоха падзелаў. На маю думку, час «літоўскай калізіі» быў горшы. Самавольная, супрацьпраўная дамова з Пятром ня менш ганебная за Таргавіцу. Яе падпісалі грамадзяне суверэннае дзяржавы, народжаныя і выхаваныя на традыцыях свабоды, а не залежнасці. Людзі, якія ведалі Сабескага, добраахвотна лезлі ў ярмо да цара, сілы якога толькі што знішчылі шведы.

Не шкадуючы падрабязнасцяў, я стараўся адлюстраваць ня толькі справы вялікай палітыкі, але й паводзіны тлумаў і нават асобаў. Малюнак вельмі выразны. П'яная зграя ў Алькеніках можа лічыцца сымбалем пануючых у краі парадкаў. Магчыма, нацвяроза гэтыя людзі як прыватныя асобы паводзіліся нармальна. (Канфедэраты, што гуртаваліся два гады раней пад Гародняй, не рабавалі і не гвалтавалі.) У якасці грамадзянаў суверэннае краіны шляхта выявіла сябе зграяй забіякаў пад кіраўніцтвам нягоднікаў. Арганізм Рэчы Паспалітае паддаўся раскладу.

Пачатак XVII стагоддзя выглядаў досыць добра, мог бы звацца «Срэбным векам». Канец стагоддзя прыпячатаны Алькенікамі. Расклад адбыўся з жахліваю хуткасцю.

* * *

Наяўнасць у нас анархіі ***ў пэўную гістарычную эпоху*** – гэткі ж відавочны факт, як наяўнасць пяску ў Вісле. Аднак некаторыя ўдзельнікі дыскусіі трактавалі анархію як асаблівы дар нябёсаў для польскае нацыі, залічыўшы яе ў рысы нацыянальнага характару. Гэткі падыход ня ёсць чымсьці новым. Некаторыя шляхцюкі-тэарэтыкі ў вольныя ад пільнавання сенакосаў і малатарні хвіліны бавіліся, запісваючы свае назіранні за парадкам рэчаў у свеце. Пан Бог, зазначалі яны, вызначыў розным нацыям адрозныя задачы. Ангельцам загадаў плаваць па моры, жыдам – купляць і прадаваць. Ад палякаў жа запатрабаваў, каб Яго «рэкрэявалі ды забаўлялі». Бо, высоўвалі яны свае аргументы, Створца мусіць добра цешыцца з нашых соймікаў, трыбуналаў... Гэткія погляды былі асабліва папулярныя ў XVIII стагоддзі. XVI і XVII стагоддзі выдалі значна меней схільных да містычных тлумачэнняў, якія, відавочна, маюць цімала прыхільнікаў у стагоддзі XX.

Апошнім часам з'яўляліся розныя цікавыя меркаванні. Напрыклад: «Палякі ня ўмеюць карыстацца свабодай». Або фармулёўка вядомага пісьменніка: «Вялікая дзяржава, якая стала ахвяраю падзелаў у XVIII стагоддзі, і то з прычыны ня літоўскага, але польскага анархічнага інстынкту».

Трохі вышэй мы гаварылі пра Алькенікі, дзе ў жудасных праявах выявіла сябе літоўская, а не польская «калізія». Вядома, хто памкнуўся да Карла XII – супраць свайго манарха, - і хто біў чалом перад Пятром I. А вось інфармацыя з катэгорыі энцыклапедычных даведак: першым, хто сарваў сойм у Рэчы Паспалітай, быў Уладыслаў Сіціньскі, стольнік упіцкі і пасол троцкі. У Вялікім Княстве ён меў дваццаць восем паслядоўнікаў. Дваццаць чатыры пасла з украінных ваяводстваў крычалі «Veto!». З Вялікапольшчы і Мазовіі – дванаццаць. Гэта вынікі даследаванняў прафесара ладыслава Канапчыньскага. Ад сябе магу толькі дадаць, што Малапольшча, Вялікапольшча і Мазовія мелі вышэйшую шчыльнасць насельніцтва, і ў працэнтах параўнанне было б яшчэ больш яскравым.

Біскуп Бжастоўскі, сталы прыхільнік караля, паходзіў ад жыхароў Кароны. Можна з гэтага рабіць высновы на карысць Польшчы – але ня варта. Казімір Станіслаў Дамброўскі, які ў пасольскай палаце збіў быў біскупа, сваволіў, як мог, ня стаў на баку караля нават за пасаду віленскага падкаморага, душой і сэрцам служыў літоўскім «каралятам», таксама паходзіў з Кароны. Ягоная сям'я толькі ў XVII стагоддзі перасялілася з Мазовіі ў віленскі павет. Дамброўскі пачынаў кар'еру як сябра кароннае гусарскае харугвы, потым стаў паручнікам літоўскага знаку. Аўгуста II, які – па меркаванні Канапчыньскага – краіну цалкам абяспраівіў, абвясціў каралём супраць волі большасці элекцыйнага поля куяўскі біскуп Станіслаў Домбскі, радавіты жыхар Кароны. Ён адважыўся зрабіць гэта, калі прымас ужо абвясціў быў абранне француза, князя Канці. Адбылося гэта ў чэрвені 1697 года, незадоўга перад Алькенікамі.

Агулам каронная шляхта на той час выяўляла хіба болей клопату пра дзяржаву, лепей разумела ейныя патрэбы. Не было ў Кароне такіх вычварэнняў, як грамадзянская вайна з асобным магнацкім родам, чыіх паводзінаў ніхто ня можа болей цярпець. Перавага арыстакратыі там ніколі не выяўлялася ў такой канцэнтраванай форме. Прычыны рознасці варта шукаць у рэальных акалічнасцях, а не ў містычных тэорыях нацыянальнага характару. Варагуючыя між сабою амаль роўныя па сіле магнацкія кланы і ў Кароне даваліся ў знакі сярэдняй і шарачковай шляхце. Але між імі існавала канкурэнцыя. Канкурэнцыя сатрапаў усё ж лепей, чым адзін ачмурэлы ад усяўладдзя тыран.

Зрэшты, такіх, як Ляшчыньскія, нельга назваць сатрапамі (нават калі пагаджацца, што Ганна Малеўская занадта для іх ласкавая). Паны на заходняй ускраіне насамрэч прасякліся культураю, і ўжо колькі пакаленняў. Сімпатыя Карла XII да Станіслава Ляшчыньскага падобная на прыцягненне паміж супрацьлеглымі зарадамі: прымітыў і вытанчанасць цягнуліся адно да аднаго. Дарэчы, выгнаны з Польшчы, Станіслаў пакінуў пра сябе добрую памяць у Латарыгіі.

Закранутая тэма вымушае вызначыцца па прынцыповым пытанні. Прашу чытача прабачыць мне асабістыя прызнанні, але хачу падкрэсліць, што пісаў ніжэйшыя радкі бяз радасці і насуперак сваім найглыбейшым сентыментам.

Ужо доўгі час мы звыкла ўжываем лягчэйшыя стандарты для ўсяго ў нашай гісторыі, што тычыцца Літвы. Звычай гэты пануе ад часу з'яўлення «Пана Тадэвуша» і яго трэба прызнаць найвялікшым дасягненнем паэта. Міцкевіч накінуў нам свой вобраз гісторыі, цалкам адрозны ад таго, што меў перад вачыма аўтар памяненай вышэй «Літоўскае Кронікі». Паўтару яшчэ раз ягоныя словы, бо яны важныя: «Уся амаль Польшча гаманіла, што дзеля калізіі літоўскае гіне». Кнігі, напісаныя звычайнымі, і нават таленавітымі, асобамі, тым больш сухія дакуманты, ня могуць спаборнічаць з геніям. «Літва, мая Айчына», - вось што фармавала погляды на ***ўсю мінуўшчыну.*** Ня зразумеўшы да канца праўды і глыбіні гэтых словаў, мы падпалі пад іхні эмацыйны ўплыў. Ня зразумеўшы, што пасля вуніі ў Вялікім Княстве Літоўскім пачалося стварэнне новае нацыі, што мелася жыць з польскаю нацыяй у сімбіёзе, мы не разумеем культурнае вагі і прыгажосці гэтае з'явы, памылкова дзелім рэчы на добрыя і нядобрыя. Зашмат паблажлівасці для Вільні, задужа асуджэння для Варшавы, і поўнае забыццё Пазнані і Лешна.

У 1697 годзе літоўская шляхта, свядома дзеючы супраць Сапегаў, запатрабавала «коэквацыі правоў» з Каронаю і дапяла свайго. Загадана было адкінуць дзяржаўны статус беларускае мовы і ўсе літоўскія дакуманты пісаць па-польску. Праз пяць год тая самая шляхта ў ролі палітычнага класу ад імя «Рэчы Паспалітае Літоўскае», заключыла дамову з Пятром, парушыўшы прынцыпы вуніі, не азіраючыся ані на Карону, ані на агульнага караля. Гэтыя факты сведчаць, як мала карысці ад спрашчэнняў. (Палітычную ацэнку дамовы 1702 году можна пакуль пакінуць у баку, гаворка толькі пра праявы пачуцця пэўнае адасобленасці ў тых жыхароў Вялікага Княства, што гавораць па-польску нават у паўсядзённым жыцці.)

Вунія стварыла вельмі складаную сітуацыю, што ўтрымлівала шмат магчымасцяў развіцця і якія змарнаваліся ў выніку бесперапынных войнаў. Шматнацыянальны народ, які злучаны, як сіямскі блізнец, са сваім заходнім суседам, разам з ім будуе агульную шматнацыянальную дзяржаву! Еўрапейская культура ня стала б напэўна бяднейшай, калі б гэткі арганізм выжыў і ўзмацнеў. Наадварот, прыдбала б вельмі цікавы і карысны досвед.

Яўген ГУЧОК

# Прыйдзіце – параімся



Я на ражне ад нараджэння,
І ўвесь мне час нясцерпны ён,
А крок зраблю да вызвалення,
Дык тут жа чую абурэнне:
«Чаго ты лезеш на ражон?!»

* * *

Глядзіць ён з трыбуны
На арганізаваны натоўп:
Галовы там –
нібы камні ў бруку...

І цягне яго
узвышша пакінуць
дзеля таго,
Каб брукам ісці
і нагамі грукаць.

* * *

Гарыць святло і батарэі грэюць,
Ды вось нясцерпна холадна наўкол...
О Беларусь!
Усіх масцей духоўныя кашчэі
І сёння валакуць цябе на кол.

* * *

Хачу маліцца, ды не йдзе малітва,
Відаць, прычына тут яшчэ і ў тым,
Што Беларусь даўно ўжо не Litwa,
Што родны край даўно ўжо рэжым.

* * *

Кожны хоча,
Каб яму служылі,
Кожны прагне
Іншых ашукаць,
Кожны пнецца
На чужой магіле
Век гнілы свой
Запачаткаваць.

* * *

Ізноў пад плотам
Лебядзе цвісці,
Цвісці-квітнець
Бязвольна, непасрэдна...
Якая пошласць –
ў гэты свет прыйсці
І быць не лепшым,
Чымся папярэднікі!

* * *

Агледзеў многа скотных я двароў –
Там ўсе маўчаць пра парушэнні іх правоў;
Ды і ніколі гэтыя правы
Не йшлі нікому там да галавы.

* * *

У лазнях наменклатурных
У Менску
Цел беларускіх –
Хоць адбаўляй,
А вось, каб родную душу
Сустрэць там –
Гэта што ў пекле
Напасці на рай.

* * *

Ходзяць рыбы на глыбіні
Рэчак, азёр і мораў
І з сябе выштурхоўваюць
Таямніча бурбалкі ўгору.

А калі паверхні вады
Тыя бурбалкі дасягаюць,
Дык адразу навідавоку
Неяк хуценька і знікаюць.

Ці не так і людское жыццё –
З таямніцы – у небыццё?!

Тых жа бурбалак болей бывае,
Калі рыба рыбіну паядае.

* * *

Імя то ёсць,
Імя то ёсць,
Ды вось пад ім –
Гнілая косць.

* * *

Упарты, учэпісты,
Бы вусень,
Начальнік сёння
ў Беларусі.

* * *

За ўсё жыццё не навучыўся
Струмень скіроўваць ва ўнітаз;
Але заўжды, куды не трэба,
Ён накіроўваў лоўка нас.

* * *

Падлетак – мужчынскага роду дурніца
Пад ногі мне кінуў петарду сягоння...
Жадаю, каб маці сваёй пад спадніцу
Ён заўтра мацнейшае штось улімоніў.

* * *

Часта чую: «ўсё будзе добра!». –
І ўзрываюся: «Што і ў каго?
У таго, хто жыве – бы ва ўборнай,
Нападоб чарвяка таго?!».

* * *

Чаму ванітуе цяжарных?
Таму яно ўсё, відаць,
Што свет гэты марна-базарны
Рашэннем бяздумна-бяздарным
Узяліся яны памнажаць.

* * *

Дом, з якога дарогі ў неба няма, –
Усяго толькі цяжкі панцыр-турма,
Дзе здохнем аднойчы абавязкова,
І наляпае помнік нядойная дзе карова.

* * *

Мужчыны – размужчынены,
Жанчыны – разжанчынены –
Такі вось знак спрычынены
Сягоння для Айчыны.

* * *

Няволю і цемру зерня,
Якое ў зямлі ляжыць,
Для сябе мы імкнемся адвергнуць...
Не нарадзіўшыся, прагнем жыць.

І носімся ў праху і пыле,
Не стаўшы Божай крывінкай...
Таму нат на губы кабыле
Ніколі не трапім травінкай.

* * *

Калі б у нас Вальтэр з'явіўся,
Няхай не цалкам, палавінкай,
Яго б прыбілі і адправілі
Як вальтанутага ў Навінкі.

* * *

Папракаем «славутых» пісьменнікаў:
«Навошта такое пісалі?»;
А ў адказ, нібыта машэннік машэнніку:
«А навошта чыталі?».

* * *

Ён – і заходнік, і ўсходнік;
Ён – праваслаўны, й каталік;
Ён – і пралазнік, і праходнік;
Ён – бальшавік і меншавік;
Ён – патрыёт; і ён жа – здраднік;
Ён – і пярэднік; ён – і заднік;
Ён – і пшэпрашам, і урус...
Забіта-хітры беларус.

* * *

Да вёскі ты не апеліруй,
Калі за мову йдзеш на бой,
Бо вёску шчырую ў вырай
Сагнаў калгасны сухастой.

* * *

Часта ў скверы купалаўскім
небеспадстаўна
Чуцен голас самоты і скрушнай жуды:
«Вы навошта мяне тут паставілі,
Ну а самі пайшлі ў нікуды?!.

Прыйдзіце – параімся,
Як дальш у Айчыне жыць;
А там – можа стацца – і справімся,
Каб не звацца людзьмі, а быць.

Я ў метале – нібы стрыножаны.
Як і Вы – беларусы мае;
Паасобку мы – бездапаможныя...
Нам яднання, сустрэч нестае.

Прыйдзіце – параімся,
Як дальш у Айчыне жыць;
А там – можа стацца – і справімся,
Каб не звацца людзьмі, а быць.

І чым болей сюды вас збярэцца
Не на мой юбілей, а штодня,
Дык ніхто і ніхто нашых сэрцаў
Палымянасць не зможа суняць.

Прыйдзіце – параімся,
Як дальш у Айчыне жыць;
А там – можа стацца – і справімся,
Каб не звацца людзьмі, а быць.

* * *

Неба – жыццё; а хмары – нібы улады,
Якім мы часта бываем не рады,
Што падоўгу яны забіраюць сонца
Ці дажджы дасылаюць сюды бясконца...

# ЕГУ: выгнаныя ў Амерыку і БДУ

Набходна папярэдзіць чытача, што я лічу ўсе ВНУ, якія праводзяць навучанне на рускай мове ў Беларусі – расійскай пятай калонай. А іншых у нас няма. Толькі асобныя курсы чытаюцца па-беларуску. Таму тое, што зачынілі ЕГУ, якое наўмысна ці нявольна здзяйсняла на Беларусі расійскі ўплыў, слёзаў і крытыкі ў адрас «рэжыму» ў мяне не выклікала.



Магу пагадзіцца, што ліхаманкавае закрыццё Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта здзівіла ўвесь свет. І праваабаронцы, і гуманітарная прафесура розных краін выказала сваю нязгоду з такім недарэчным рашэннем. Нікому ён не пагражаў і асяродкам вольнадумства не мог стаць апрыёрна. ЕГУ быў утвораны ў 1992 годзе, у часы Шушкевіча, калі прыватныя ці «недзяржаўныя» інстытуты, гімназіі, ліцэі хоць не гэтак густа, як грыбы, але паўставалі. Потым у ЕГУ з'явіўся тэалагічны факультэт, дэканам якога выступіў мітрапаліт Філарэт. Здавалася, якую крыўду можа спазнаць універсітэт, незаўважаны ў кантактах з беларускамоўнай апазіцыяй і абаронены супрацоўніцтвам ачольніка беларускай правінцыі Рускай праваслаўнай царквы? І вось на табе – тысяча студэнтаў вымушана пайсці ў іншыя навучальныя ўстановы, выкладчыкі -- шукаць працу.

Зразумела, закрыццё любой навучальнай установы – благая справа. Аднак з чаго гэта нашае грамадства перабольшвае свой боль і страты? Год таму ЕГУ не праліло публічна ніводнай слязінкі, калі ўлады жорстка зачынілі Дзяржаўны Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа. А значэнне ліцэя і «еўрапейскай» платнай ВНУ для нацыянальнай культуры і ўзбагачэння інтэлектуальнага патэнцыялу краіны проста несупаставімыя. Такія універсітэты, як ЕГУ, ёсць у кожнай краіне Еўропы ў кожным горадзе. Студэнты ЕГУ маюць грошы, могуць вучыцца там. А ліцэй быў адзіны не толькі на Беларусь, а на Еўропу. . Варта было б адгукнуцца тады на яго бяду і рэктарату ЕГУ, і студэнтам. Але яны па-вясковаму палічылі, што іхная «еўрапейская» хата з краю. Дык нашто цяпер лямантаваць «Ратуйце!»?

Цяпер толькі і чуваць тэзу пра унікальнасць ЕГУ, пра яго традыцыі, пра найвысокі прэстыж у сістэме адукацыі Беларусі. Маўляў, лепшыя выкладчыкі, лепшая бібліятэка, лепшыя лекцыі замежных спецыялістаў, інтэграцыя ў еўрапейскую і сусветную адукацыйную прастору. Словам, нічога лепшага Беларусь не мела і ужо мець не будзе.

Аднак і заснавальнікі, і «зачыняльнікі», відаць, разумеюць, што універсітэт, які паўстаў 12 год таму, традыцый яшчэ мець не можа. Для універсітэта гэта наогул ніякі не тэрмін. ЕГУ не мог набыць прэстыж, бо яго першыя выпускнікі толькі-толькі ўладкаваліся на працу, ніводзін з іх яшчэ не зрабіў нічога адметнага і не падняўся на пасады, якія дазваляюць весці гаворку пра якасць выхавання ў пэўнай вну. Усе ягоныя «лепшыя кадры» вучыліся ў дзяржаўных вузах БССР ці СССР. Нашто гэтага саромецца? Чым БДУ горшае за ЕГУ? Чаму не сказаць пра гэта адкрыта? Студэнты дзяліліся з журналістамі такім болем: «Галоўная наша мэта сёння, каб не знялі з пасады нашага рэктара. Бо гэта можа стаць падставай для дэградацыі ВНУ». Калі дэградацыя універсітэта гэтак залежыць ад адной асобы - то жыццё ВНУ не можа быць доўгім. Паказальна, што пратэсты студэнтаў ЕГУ нагадвалі забаўкі накшталт тых, якія надаюць адметнасць футбольным фанатам – размаляваныя фарбай твары, плакацікі – «ЕГУ лучше всего», «ЕГУ будет жить» і да т.п., зразумела, ўсё на рускай мове. Магчыма, нейкае выкарыстанне беларускай мовы там і было, але не болей як у іншых нашых ВНУ. Што ў гэтым «унікальнага», «прэстыжнага», «еўрапейскага» , зразумець цяжка. Кожны год ЕГУ выстаўляў рускамоўных спецыялістаў з добрым веданнем замежных моваў. Магчыма яны добра працуюць у краінах Еўрасаюза ці ў Расіі. Але якую дзяржаву такія інтэлектуалы будуць будаваць тут? Умацоўваць рэшткі БССР?



І нарэшце, яшчэ адзін вынік дзейнасці ЕГУ. Прысутнасць тэалагічнага факультэта ў свецкай ВНУ пазначала яго ідэалогію павагі да вышніх сілаў. Але разлікі атрымаць нябеснае апякунства не спраўдзіліся, нашая ўлада не надта зважае на грахі. Затое зараз будучыя тэолагі на чале з дэканам поўным складам збіраюцца перайсці ў БДУ. І зразумела, як «ахвяраў» няшчасця з ЕГУ іх прымуць. І галоўны універсітэт дзяржавы атрымае гатовы праваслаўны тэалагічны факультэт. Што ў іншых умовах выклікала б абурэнне нашай інтэлігенцыі. А зараз ніякага абурэння не будзе. Магчыма, легітымізацыя гэтага пераходу і стала адной з прычынаў закрыцця ЕГУ. Філасофію ў сярэднявеччы лічылі служанкай багаслоўя. Па іроніі лёсу Еўрапейскі гуманітарны універсітэт паслужыў ёй і ў пачатку XXI стагоддзя.

Рэктар ЕГУ, кажуць, сядзіць у Амерыцы – вырашае пытанне з арганізацыяй беларускага «універсітэта ў выгнанні». Дай яму бог удачы, значыць ён будзе фінансавым геніям, калі здолее здабыць такія вялічэзныя сродкі, якіх патрабуе існаванне паўнавартаснай навучальнай установы для выгнанцаў з краіны.

**Станіслаў ЖЫГОРСКІ**

# Гадаванец Наваградчыны

**Колькі словаў Людмілы Дучыц пра свайго дзеда – знанага мастака**

Мікалай Дучыц (1896–1980) нарадзіўся ў Любчы. Яго дзед удзельнічаў у паўстанні 1863 года. Бацька будучага мастака Васіль быў у сям'і старэйшым з трох братоў і таму зямля ў спадчыну перайшла да яго. Два дзядзькі пайшлі вучыцца. Адзін з іх Самуіл скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю і працаваў доўгі час у Тракаі, а затым у Вільні.

Калі ў Міколы памерла маці, а бацька ажаніўся другі раз, то дзядзька забраў яго да сябе ў Тракай, дзе і вучыў у школе. У 1910–1914 гадах будучы мастак вучыўся ў Наваградскім павятовым вучылішчы. Менавіта тут і раскрыліся яго схільнасці да малявання. Адкрыў талент настаўнік малявання Васіль Іваненка. Ён браў вучня на эцюды, а ў яго на кватэры Мікола пісаў першыя нацюрморты. У гэтыя гады хлопцу шанцавала на добразычлівых людзей. Часта яго запрашаў да сябе чыноўнік Аляксандр Бух, вялікі аматар мастацтва, кнігалюб, майстар выпальвання па дрэве і чаканкі па медзі. Дапамагала будучаму мастаку і ўладальніца Любчанскага замка – яна купляла яму фарбы, паперу для малявання.

У 1913 годзе ў Навагрудку была арганізавана павятовая сельскагаспадарчая выстава. Намаганнямі А.Буха Мікола Дучыц упершыню выставіў некалькі сваіх акварэляў. У 1914 годзе юнак едзе ў Пецярбург, яго прымаюць у Школу Таварыства заахвочвання мастацтваў. Дырэктарам школы ў той час быў знакаміты Мікалай Рэрых, а сярод настаўнікаў – Альберт Бенуа. Вучыцца давялося толькі два гады, бо маладога мастака мабілізавалі ў армію. Са сваім палком ён быў у Гатчыне, Красным Сяле, Дзвінску, Якабштаце, Рызе, Шаўлях. У 1918 г. трапіў у Чырвоную армію, удзельнічаў у баях на Заходнім фронце, у паходзе на Варшаву. Увосень 1920 года зведаў палон ва Усходняй Прусіі, у Эрлангене. Але і ў палоне мастак не пераставаў маляваць. Гэта былі акварэлі ў выглядзе маленькіх паштовак. Праз камісійную краму ён выменьваў іх на харчы, што дапамагала выжыць яму і ягоным сябрам.

У 1921 годзе ў шэрагах Чырвонай арміі мастак трапляе ў старажытны Пскоў, дзе напісаў шмат архітэктурных эцюдаў. Пасля дэмабілізацыя з арміі Мікалай спрабуе даехаць да радзімы. Але калі дабраўся да Мінска, ужо была



праведзена савецка-польская мяжа, і ўсе родныя засталіся ў Польшчы, а ён – у Савецкай Беларусі. Працаваў настаўнікам малявання ў розных школах, на Рабфаку, у рэдакцыях. У 1924 годзе ён ажаніўся на Яўгеніі Беразоўскай. Яна паходзіла з сям'і, карані якой таксама былі на Наваградчыне і Віленшчыне, і мяжа не дазволіла ім вярнуцца «з бежанцаў» на радзіму. У 1927 годзе ў іх нарадзіўся сын Уладзімір.

Мікалай Дучыц удзельнічаў у I Усебеларускай выставе ў 1925 годзе. У канцы 20-х гадоў ім было зроблена некалькі дзесяткаў замалёвак пастэллю старога Мінска, асабліва раёна Ніжняга рынку і Замчышча.

Самым цяжкім перыядам у жыцці мастака была другая палова 30-х гадоў. Пастаянныя былі выклікі ў НКУС. Выклікалі нават за тое, што адну з ягоных прац на выставе набыў польскі консул, якому вельмі спадабаўся краявід з касцёлам. У НКУС абвінавачвалі ў тым, што мастак зашыфраваў у карціне нейкія звесткі і менавіта таму яе купіў консул. У час паездак на эцюды па наваколлі Мінска яго не раз хапалі сяляне і піянеры, прымаючы за шпіёна і адводзячы ў міліцыю. Для мясцовых жыхароў было незвычайным відовішча, што недзе ў лесе ці ў полі сядзіць чалавек і малюе. Значыць, шпіён! Граніца ж была блізка.

У кастрычніку 1935 года адбылася персанальная выстава твораў Мікалая Дучыца. Экспанаваліся акварэлі, малюнкі алоўкам, жывапісныя работы. Перад Вялікай Айчыннай вайной было напісана палатно «Вялікі гідраторф», прысвечанае асваенню балот на Аршаншчыне.

У 1940 годзе праходзіла дэкада беларускага мастацтва і літаратуры. Мастак паказаў невялікія працы «Лодкі», «Лес», «Дрэвы», але яны прыцягнулі ўвагу гледачоў і былі адзначаны мастацтвазнаўцамі.

У часе вайны Мікалай Дучыц, як і шмат іншых мастакоў, застаўся ў акупаваным Мінску. Выжыць было цяжка. За карціны немцы разлічваліся харчамі. У гэтыя гады мастак пісаў відарысы Мінска, асабліва яго ўскрайкі з драўлянымі забудовамі. Пасля вызвалення Дучыц спяшаецца занатаваць сляды вайны («На руінах Мінска», «Лагер смерці ў Трасцянцы»). Шмат замалёвак было зроблена ў раёне Заслаўя.

У 1946 годзе былі вандроўкі на родную Навагрудчыну, у Вільню, на возера Нарач, Валожыншчыну, Мазыршчыну. Былі створаны палотны «Вёска Ждановічы», «Вадзяны млын каля Ждановічаў», «Касцёл у Заслаўі», «Ракаўская царква» і іншыя.

У 1946 годзе ў Вільні Мікалай Дучыц знаёміцца з мастаком Пётрам Сергіевічам, і разам яны малююць Стары горад. У 1954 годзе адбылася другая персанальная выстава Дучыца. У кнізе водгукаў наведвальнікі выставы асабліва адзначылі зімовыя пейзажы і нарачанскія замалёўкі.

З выхадам на пенсію ён увесь час прысвячае любімаму жанру – лірычнаму пейзажу. У другой палове 60-х гадоў вярнулася захапленне старажытным Мінскам. Многія з малюнкаў гэтых гадоў мастак падараваў Рэспубліканскай школе мастацтваў. У 1967 годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі праходзіла выстава, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння мастака. Мастацтвазнаўцы называлі мастака вялікім знаўцам беларускай прыроды.

Персанальная выстава рыхтавалася і да 80-годдзя з дня нараджэння мастака ў 1976 годзе, але яна так і не адбылася.

Стагоддзе з дня нараджэння мастака было адзначана дзвюма невялікімі выставамі. Адна з іх прайшла ў Заслаўі, дзе былі паказаны працы, прысвечаныя старажытнаму гораду і яго наваколлю. Другая экспазіцыя мела назву «На руінах Мінска» і прайшла яна ў рамках выставы «Што зведаў наш горад» у Музеі Вялікай Айчыннай вайны. Работы М.В.Дучыца знаходзяцца ў музеях Беларусі і Расіі, а таксама ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Германіі, Польшчы, Японіі, Ізраіля, ЗША, Францыі, Нарвегіі і іншых дзяржаў. Многія працы мастака рэпрадуцыраваны. Але большасць яго работ, асабліва малюнкаў старога Мінска, яшчэ не вядомыя грамадскасці, і сапраўднае знаёмства з яго творчасцю яшчэ наперадзе.

**Людміла ДУЧЫЦ**











Вячаслаў ДУБІНКА

# Нядаўнія суродзічы

## *Малюнкі з жыцця, якое знікае і знікне, і цяжка будзе паверыць, што яно было*

### Дзе ж ты, новы, а мудры гісторык

Паўгадзіны спакойнай хады легкавіком па шчарбатай гравейцы на поўнач ад Кобрына, абмінаем някідкую, сцішаную вёсачку Бухавічы і спыняемся ў дзіўным месцы. Узгорак з багатай зелянінай і пачарнелая хата з маленькімі акенцамі, дый збуцвелая клуня каля самай гравейкі. А некалі тут быў багаты хутар з добрым «начыннем» – шматлікімі гаспадарчымі пабудовамі.

– «Мудры гісторык» каторую пару там кантуецца, здзічэў у адзіноце, – пра гэтага дзівака згадвалі нам вяскоўцы ў Бухавічах. Ён і праўду, сядзеў гадзінамі на прагніўшым ад дажджу зэдліку, апухшы ад марнаты, нэндзы, галодны і злосны, уважліва ўглядаўся туды, адкуль прыехалі і мы. Некалькі худых бадзяжных сабак, горы смецця, паржавелая сячкарня і незвычайная цішыня. Дзіўна, але ў той доўгі дзень вандровак па Кобрыншчыне люд, што трапляўся на нашым шляху, – скрозь няветлы, заклапочаны, ласкавага слова ад іх не дачакаешся. Няўжо нібы тут ніколі не смяяліся, не жартавалі, а хадзілі, унурыўшы галаў, насцярожана пазіраючы на прышэльцаў з «вялікай» зямлі, – адтуль, дзе бегла шырокая асфальтоўка. Няголеныя, у наскрозь паношанай апратцы. Сядзяць і маўчаць, дзіва чакаюць.

– А якая самота іх даймае? – пытаемся ў «мудрага гісторыка».

– Нашы людзі – сталінскай гадоўлі! Халопы, прыгонны люд... Яны ніколі ўжо не распрамяць плечы. Ні яны, ні іхнія дзеці... Рабу, акрамя пайкі мандры і міскі баланды, нічога не трэба... Нянькавалі бальшавікі, энкеведыстаў гукнуўшы. А іх паслядоўнік вусаты давяршае справу, рабамі і сканаюць...

Вось які ты, хутарская знакамітасць «мудры гісторык». Ён уважліва паглядзеў на мяне, а пасля, праз хвілінку маўчання, зноў загаварыў. І не толькі пра Сталіна, пра Хрушчова, Брэжнева. Дзядзьку з хутара на свежага слухача пашэнціла, можна выгаварыцца.

Худы, высахшы, але рухавы, ён раптам падхапіўся і, прыпадаючы на левую нагу, бордзенька шуснуў у хату, хутка вярнуўся. Бачу, на сівой галаве ўшчамілася зімовая шапка – к вечару і, праўда, пахаладала. На вуліцы чэрвень, а ён абуты ў шытыя буркі. На плячах зашмальцаваны вайсковы бушлат у лапінах. Ён наблізіўся да мяне, прагаварыўшы рашуча:

– Пайшлі, я табе святога чалавека пакажу. Ягоныя штодзённыя малітвы Бог чуе... З гэтага чалавека абразы пісаць трэба, дый у кобрынскі храм...

Я – следам за ім, за пашкуматаным жыццём, былым вясковым настаўнікам гісторыі. Прыгадвалі мясцовыя, чвэрць стагоддзя на Калыме гудзеў, золата для вялікай савецкай імперыі капаў – гроб... Вярнуўся дахаты хворы, без зубоў, працаваў вартаўніком на ферме, летам пасвіў калгасную жывёлу, а зімой выбіваў мяшкі, у якіх прывозілі ў гаспадарку камбікармы з Польшчы. І многа чытаў, кніжак у яго некалькі мяшкоў на гарышчы.

### За мяшок прэлага аўса, як і за веру – катарга

Хаціна «святога» чалавека надзейна схавалася ў гушчыні дрэў, за могілкамі. Невялічкі будан нагадваў дзот, злеплены з дошак, калючага дроту, арматуры, паржавелых аўтамабільных дыскаў... Адчыніў настаўнік дзверы і ўдарыла такім смуродам, аж галава закружылася. Асвойтаўшыся, заўважыў дзіўнага чалавека, які нерухома сядзеў на самаробным тапчане ў доўгай даматканай світцы, на нагах гумавыя боты. Белая барада, на шыі срэбраны крыж. На высокім ўслончыку дзіўна прымасціліся адзін на адзін у тры паверхі радыепрыймачы... І кожны сваім гучным галаском хваліцца. Але самы галасісты «Рекорд» – чуліся спевы – урачыстая служба па радыё, вось слухачоў не стае.

– Радыёпрыймачы яму ўнук з Мінска прыпёр, яшчэ пры Хрушчове былі кляпаныя, а, халера на іх, чыста ўсё ловяць, - прагаварыў настаўнік. – Хочаш, дык да Амерыкі вуха прыткнеш, – і добра чутно, як свайго брахуна з Кобрына.

Гаспадар будана зірнуў на нас і, крыху пацішыў гук радыёпрыймача, выцер пыл з зэдлічка і падсунуў да нас, не прагаварыўшы ні слова. А за яго гаварыў былы настаўнік:

– Гэта дзякуючы яму мясцовыя гультаі жыць па-людску мо і навучацца. Панаперлася адусюль у суседнюю апусцелую вёсачку рознае гультаечы. Анічога не ўмелі, дый і не хацелі, адно самагон гналі. Цяпер жа і вепрукоў гадуюць, агародчыкі свае маюць, бульбачку сваю ядзяць. Святому чалавеку гультаі дзякуй скажыце. Ага, дачакаешся. Добра, каб сабак не нацкавалі....

А мне прыгадалася ўчарашняе. Мясцовы бацюшка з Бухавіч, зірнуўшы на мае корачкі з залатымі літарамі «прэса», незаўважна, як яму падалося, шапнуў вяскоўцам. – Шастаюць тыпы падазроныя, храмы фатаграфуюць. Вядома, для якой мэты.

А як сцямнела, на наш легкавік рушылі бухавіцкія дзецюкі з каламі, гасціннасць па-бухавіцку, – націскай на газ і прэч.

Былы настаўнік гісторыі ў задуменні падыйшоў да закарэлай каструлі гаспадара, зазірнуў – вараная бульба. Павярнуўся да мяне і сказаў з выдыхам:

– Ведаеш, за што пасадзілі святога чалавека і без дай прычыны? За веру! Прыпячаталі на вечнае пасяленне. Пагудзеў разам са мной аж на Калым-раку... Мяне за мяшок прэлага калгаснага аўса, а яго – за веру...

Настаўнік падышоў да «святога» і ласкава, пяшчотна правёў далонню па сівых валасах.

Якая ж дарога вядзе да новага храма. Пад настрой і надвор'е. З раніцы пайшоў дождж. Мы намыліліся ў глухі куточак, - на Захад Брэстчыны. І запытайцеся, які клопат гукнуў. Каторую пару мясцовае начальства не давала згоды... маліцца веруючым вёскі Паніквы ў сваім храме. Я бачыў той адрамантаваны рукамі працавітых вяскоўцаў храм. Тут панаваў непаўторны пах свежай фарбы, памытай падлогі, перадсвяточнай урачыстасці. І вабілі свежыя галінкі бяроз, снапок збажыны, даматканыя ручнікі і абразы.

А як хацелася ім мець свой храм. З кожнай хаты скідваліся, не шкадавалі грошай для храма. Кожны «цяглавы» мужык на царкоўных рыштаваннях адпрацаваў некалькі тыдняў, каб жа ў Паніквах было ўтульна, не горш, чым у суседнім багатым Волчыне.

У Вавулічах, гэта ад Драгічына паўсотні кіламетраў, да нас прычапіўся нахабны тыпус у зацёртым пінжаку і пад добрым хмелем. Кінуўся да мяне і далаНЁЙ лясь па фотаапарату:

– Здымачкі, панімаеце... Міліцыю выклікаць ці самі здавацца будзеце?

– А вы хто будзеце, паважаны спадар? – пытаемся ў тыпуса.

– Я – сельсаветчык, уласць мясцовая, – адказвае на пытанне. І гучна на ўсю вуліцу: – Я забараняю тут снімачкі, панімаеце.

Я хап за вялікі фотааб'ектыў і на дзяцюка, а той, на дзіва, зніякаваў і даў цягу, адно пагражаючы:

– У міліцыю патарабаню, тыя хлопцы вас правучаць, панімаеце, здымачкі задумалі, панімаеце.

Гонім далей, настрой у ваўка пазычыўшы. Бродніца. Шукаем настаяцеля прыхода, паказваем дакументы, адпаведны дазвол епархіяльнага ўпраўлення на фотаздымкі ў храмах, тлумачым што рыхтуецца грунтоўная энцыклапедыя праваслаўных храмаў, справа дужа патрэбная, гістарычная. Бацюшка не верыць нам ані кроплі, пазірае з хітрынкай, цэдзіць:

– Не, не, аніякіх фотак. Газуйце ў райвыканкам, намеснік – наш упаўнаважаны, няхай вам даведку шлепане, дазвол дасць, без начальства не-не, не дазволю!

Не паспелі зачыніць брамку бацюшкавага ладнага дамочка, як чуем бацюшкаў гучны голас. Лемантуе, крычыць у тэлефонную слухаўку. Канешне ж у райвыканкам – вырашыў стукануць:

– Беражыцеся, да вас са сталіцы падазроныя, пры іх дакументы, пэўна падробка, вынюхваюць, а пасля да нас бяда прыкоціцца!.

І праўда, у Століне ўпаўнаважаны па «раённай» рэлігіі, пачуўшы бацюкаў «стук», ключом шчоўк – і ў бліжэйшы лясок, шукай ветру ў полі. Вяртаемся назад ў Бродніцу, адмахаўшы туды-сюды аж семдзесят кіламетраў. Бацюшка сядзіць на ганачку, што каток на канапе, і на сонейку грэецца. Праўда, ужо апрануўся пасвяточнаму. Нарэшце, такі патрапілі ў храм. Дык вось чаму ўпарціўся бацюшка. Няўтульна, сцены даўно сумуюць па свежай фарбе. А за храмам быльнег, смецце, жыгучка раскашуе. Пусці каня – ногі паломіць. А вось дамок у бацюшкі дагледжаны, пад ацынкаванай бляхай, грунтоўны заасфальтаваны двор, студня з помпай. Толькі на святы «дамок» грошай не знайшлося.

У прыгожай мясціне – мястэчка Войская, Камянецкі раён. Дзіўна, але тут захавалася унікальная драўляная царква арыгінальнай забудовы. На званіцы і рэдкія званы з надпісамі: «Ахвяраванне жыхароў Войскай храму». Настаяцель храма прыгадвае:

– Мой бацька яшчэ да рэвалюцыі пачаў службу ў храме. Напярэдадні бяды, а было гэта ў 1914 годзе, закапаў шмат царкоўнага дабра. Немцы перайшлі ўжо граніцу Расійскай імперыі. На жаль, тое дабро не зберaглося, прапала. Які злыдзень зрабіў гэта, невядома, пэўна нехта з мясцовых... Адно ўсцешыла – званы і ацалелі. Бацька і кніжкі ў дубовых бочках хаваў. Кніжны збор у храмавай бібліятэцы Войская багацейшы ў наваколлі. Тысячы кніжак, шмат было і рукапісных, даўнейшых.

За царквой у вёсцы Лядзец Столінскага раёна шмат гадоў існуе стралковы цір, у якім набіваюць руку «стралкі» аднае вайсковай часці. Смаляць ад цямна да цямна.

– Як жа людзі? – пытаюся ў мясцовага бацюшкі, – пратэставалі, хадзілі да начальства?

– У нашых мясцінах народ дзіўны, – тлумачыць бацюшка. – Толькі пра сябе і сваё чэрава клапоціцца. Чужога чалавека, жанчыну з дзіцем ці старога, здарожанага чалавека ў хату а ні за што не пусцяць!

Гэта пра тубыльцаў з вёскі Лядзец, той самай, у якой пабудаваны стралковы цір.

Бачу на дзвярах той жа ўтульнай цэрквы вескі Лядзец на сцяне прымацаваны дзіўныя малюнкі- плакацікі: «Аб любові», «Аб духоўнасці». Спарахнелыя ад часу граматы пад шклом, а год выдання – 1914 год.

Вёсачка Плотніца на Століншчыне. Іду па вуліцы і прывячаю вясковую паштальёнку А яна ж босая, з вялікай торбай на плячы. Верасень жа, не дужа каб і горача было. Пытаюся, у чым справа, мо хто пакрыўдзіў, дапамагчы чым.

– Ногі дужа баляць, аніякага абутку не церпяць. Так і хаджу ледзь не да халадоў, зямля лечыць.

Так і запомнілася: граматы 1914 года і босая кабета-паштальёнка.





# Пасадзіў DEAD RAPку




У сваіх шматлікіх матэрыялах, прысвечаных развіццю папулярных музычных жанраў у Беларусі, не раз прыходзілася звяртаць увагу чытачоў на незвычайны тутэйшы феномен: неягледзячы на амаль татальнае выцясненне беларускай мовы з грамадскага ўжытку ў сучаснай Беларусі, роднае слова працягвае жыць не толькі ў сваёй натуральнай сферы, але і ў самых незвычайных мастацкіх формах і іпастасях, часцяком у нечаканых.

Не будзе перабольшваннем, калі ў прыклад гэтага сцверджання я прывяду выданне новага дыска «Пасадзіў DEAD RAPку / RAP NOT DEAD». Унікальнасць гэтага выдання, ажыццяўленага БМAgroup, у тым, што на яго трэках прадстаўлены ўражваючыя прыклады беларускамоўнага рэпа. Так, модная музыка чарнаскурага насельніцтва ЗША пераасэнсоавана беларускімі выканаўцамі ў адпаведнасці з самымі высокімі патрабаваннямі да твораў гэтага стылю! І гэта яшчэ адно сведчанне жывучасці беларускага слова, яго здатнасці ахопліваць новыя мастацкія гарызонты, якія акрэслівае тэхналагічная эпоха пачатку XXI стагоддзя.

Не хацелася, каб скептыкі адразу ж адкінулі саму ідэю: маўляў, навошта нам беларускамоўны рэп, калі самым лепшае цверджанне несмяротнасці нашай мовы – творы Купалы і Коласа. Ніхто і не супрацьпастаўляе мову класікаў вулічным рыфмам непрызнаных майстроў рэп-рэчытатыву. Проста наша эпоха дае падставы для новых форм творчасці, і беларуская мова, як жывы арганізм, іх асімілюе на сваю карысць. А значыць набывае новы імпульс дзеля свайго развіцця.

Каб пацвердзіць жыццяздольнасць нашага варыянту рэпа на дыску «Пасадзіў DEAD RAPку / RAP NOT DEAD», выдаўцы першым трэкам прапанавалі вельмі пераканаўчую антыалкагольную баладу Аляксандра Памідорава «Дзень без гарэлкі». Алеся ўжо сёння можна назваць класікам беларускага рэпа, апошні альбом якога «Сьвята пакрадзенае» – сапраўдны ўнёсак у скарбонку сучаснай музычнай культуры. Акрамя антыалкагольнага катарсыісу, на дыску ёсць яшчэ некалькі твораў Памідорава. Першы знаёмы слухачам па праекту «Сьвяты вечар» – рэп-балада «Цуд на Каляды» і сумесны з нямецкім гуртом «DIE FOEDERATION» рэп «Новыя магчымасці».

Сапраўдным сюрпрызам для аматараў рытмізаванага рэчытатыву з'яўляецца трэк ад праекту «Please mr. Stahl» (Плесанавы і Шталянкоў) пад назвай «Пасадзіў дзед рэпку» (на словы Вітаўта Мартыненкі). Бо гэта вельмі меладычны і арыгінальны рэп на сатырычны сюжэт, які стаў загалаўным для гэтага дыска. Прадзюсер трэку Андрэй Плесанаў (гурт «P.L.A.N.») дамогся вельмі ўражлівых акустычных вынікаў, калі замест электронных эфектаў, характэрных для рэпа, выкарыстаў музычныя інструменты з арсеналу сімфанічнага аркестру – скрыпкі і віяланчэль. Гэта надало песні завершанасць і прыцягальнасць. Рэп «Пасадзіў дзед рэпку» хочацца слухаць, не зважаючы на тое, што ўсё жыццё слухаў зусім іншую музыку!

Яшчэ адной «нечаканкай» сталася выкананая тут па-беларуску рэп-балада «Лялька», якую вельмі актыўна круцяць на Першым музычным канале. Беларускі тэкст надаў песні зусім новае гучанне, кантэкст і эмацыянальная адценні. Ёсць над чым паразважаць і Сярогу, і тым, хто яшчэ сумняваецца ў магчымасці роднай мовы ў сучасных музычных напрамках!

Асабіста мяне парадаваў творчы імпэт удзельнікаў рэп-гурта «Ліцэй», які аб'яднаў навучэнцаў ліцэя-змагара. Нягледзячы на выпрабаванні, якія выпалі на долю ліцэістаў, маладыя людзі захавалі ў сваіх песнях і перадалі слухачам добрыя, часам незраумелыя дарослым, пачуцці. Пачуцці «Кахання»...

Прыемна, што многія маладыя рэп-гурты звяртаюцца да роднай мовы ў гэтым складаным музычным напрамку. Сярод іх варта адзначыць кампазіцыю «Далёка адсюль» гурта «Графіці», напоўненую настальгічнымі пачуццямі любові блуднага сына да родных, да сваёй хаты, якія цяперака далёка. Беластоцкі «Step» чытае рэп «Мне хочацца спаць» – своеасаблівыя замалёўкі тамтэйшага жыцця, якое бывае вельмі падобнае на тутэйшыя рэаліі. Чыманок прапануе сваё разуменне патрыятызму. Рыфмы і высновы Чыманка, магчыма, простыя, але чапляюць за жывое: «Абвясціўшы збройны чын, / Паспалітае рушэнне. / Продкі нашыя змагаліся, / Каб здабыць нам вызваленне»... Як кажуць, амерык Чыманок не адкрывае, але здзіўляе выбарам тэмы, асабліва прыкметнай на фоне крымінальна-геданістычнай тэматыкі яго рускамоўных калегаў па рэпавым цэху. Пажадаем маладому выканаўцу далейшага развіцця акрэсленай ім тэматыкі ў сваёй далейшай творчасці.

Гурт «Пан Жыжма» – ідэйны прадаўжальнік гумарыстычнага накірунку ў беларускай рэп-музыцы, які прадстаўляў гурт IQ48, дэбютуе рэп-гумарэскай «Гармата» з выкарыстаннем сэмплаў хіта гурта «Палац» «Канюшня». Ветэран беларускай рэп-музыкі Павел Зыгмантовіч «Фрэйд» і тут прапаноўвае свае эксперыменты на скрыжаванні рок-музыкі і рытмаў рэпа.

Але не ўсё на дыску прадстаўляецца дасканалым у творчым плане. Занадта прамалінейным падаецца, напрыклад, «Мір ва ўсім свеце» ад Ага і «Сындыката рыфмы», бо вельмі нагадвае лозунгі нядаўняга часу, калі за мір змагаліся пад распіску і мітынгавалі за яго па загадзя падрыхтаваным спісе.

Мінімалістычныя брэйк-бітавыя фарбы характэрны для трэка гурта «Жыццё ў слове» пад назвай «Там». Сама кампазіцыя прысвечана пошуку ідэальнай краіны, дзе «няма крыўды за свой лёс, дзе магчыма не бачыць горкіх слёз». Трасянка, як мастацкі сродак, вельмі характэрны для творчасці каманды L-Dil. Але гэта не сцеб, а недастатковае веданне роднай мовы. Тым не менш, некалькі базавых зарыфмаваных думак ствараюць уражанне цэльнасці кампазіцый і шчырасці яе выканаўцаў.

Але, нягледзячы на некаторыя недахопы рэп-кампазіцый, новы дыск «Пасадзіў DEAD RAPку / RAP NOT DEAD» не выглядае нейкай безгустоўнай зборкай. Альбом атрымаўся вельмі цэльным і ўвесь час атрымоўвае самыя добрыя адзнакі адмыслоўцаў. У тым, што дыск карыстаецца попытам у аматараў рэпа, у тым, што ён выгадна адрозніваецца ад усяго таго, што было зроблена раней у гэтым музычным стылі, заслуга крэатараў праекту В.Супрановіча («Беларуская Музычная Альтэрнатыва»), В.Мартыненкі («Prynamsy Records») і А.Плесанава (гурт «P.L.A.N.»), якія здолелі з многіх варыянтаў структуры размяшчэння трэкаў на дыску, афармлення яго выбраць самыя дасканалыя і канструктыўныя. Пры тым, што ў складальнікаў і афарміцеляў альбому «Пасадзіў DEAD RAPку / RAP NOT DEAD» часу на роздум было няшмат. Але прадукт атрымаўся вартым тых высілкаў і зойме вартае месца ў калекцыях беларускіх аматараў рэп-музыкі.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

# Пры свячэнні

### Звеставальная скарбонка

*На адкрыцці выставы Івонкі Сурвілы і Ілонкі Барадулінай у Менску*

Атлантыдаю Канада
усплыла.
Мне спакусаю, прынадаю
была.
А ў кагосьці ў горле скула -
што капшук.
Там Сурвіла, там Акула,
ёсць і Жук...
Радзе дадзены ў Канадзе
Ключ і Сцяг.
Пра што думаюць у Радзе?
Дзе той шлях
ад атлантаў Атлантыды –
на маяк...
Ёсць у нас карыятыды:
добры знак!
Звеставальная скарбонка –
з-пад стырна.
Тут Івонка, тут Ілонка,
тут – Вясна.
Беларусь – каля Канады
хараства...
Нам Дзень Волі не для звады, –
для Раства!

•

### Палуба Калумба

*Вярнуся да Калюмбаў маёй зямлі.*
*Янка Юхнавец*



На палубе Калумба
Пад ветразем надзей
не напаткае згуба
разгубленых людзей.
Пад ветразем удачы
на палубе-крыле
імчуся ў свет гарачы,
дзе Воля – на чале чале.
І з-пад пякучых німбаў
Айчынных алтароў
узношу да алімпаў
паходні змагароў.
Жывіца родных зрубаў,
праз акіян плыві!
На палубе Калумба –
Сцяг з рысачкай крыві.
Пад ветразем адчаю –
ратоўныя кругі.
Я ў Беларусь злучаю
свае два берагі.
Пад ветразем натхнення –
маёй душы прасцяг.
Амерыка – імгненне
на палубе жыцця.
Будзь, Новы Свет! Вярнуся
у пантэон дубоў, –
каб ветразь Беларусі
напоўніла любоў.
Мой мацярык – дл зьлюбу.
Перамагчы бяду
наступнікаў Калумба
на палубе знайду.

### Няздраднае святло

*З успамінаў Віктара Жаўняровіча: «Беларуская Язна, дзе давялося пазней падрастаць, зрабіла на мяне асаблівае ўражанне».*



Дарогі друйскае няма.
Ад бацькаўшчыны – папялішча
і затанулая карма...

І толькі фарба летуцее.
Дзісна з Дзвіною маладзее
прыбеларушчаннем вачэй.
У кожным абразку – надзея:
«Букет мой за Парыж ярчэй!»

Чужой няма ніводнай краскі.
На галасы зямелькі наскай
сцякае з пэнзля промня кроў, -
і Беларусь пякучай ласкай
шчабеча між чужых муроў.

Радзіма гоіць эмігрантаў:
Цяпло душы – не зрэб'е трантаў
прытульных бежанцаў-ахвяр.
...Няздраднае святло пад столлю:
ля абраза глядзіць Маляр
на дзісненскую жырандолю.

### Доўг

*Сп.Эгансу Найманісу, Часоваму паверанаму ў справах Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь – на выставе калекцыі з Музея гісторыі Латвіі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі*

Салідныя солiды,
уладныя талеры,
узважаны золатам,
узвышаны талентам.
Пры герцагу Якабе,
пры Біране-герцагу
пад Полацкам звякалі,
звінелі пры Герцыке.
Муры Куйкейноскія
укладзены лустамі:
там соліды носкія
і талеры тлустыя.
Манету суровую
саюзніка Кетлера
мяняю на новую, –
дзе рысачкі вектара
на Курзэсэ, Відзэмэ...
За Готландам – неба ўніз...
А герцаг бязвізавы
адзін толькі – Найманіс.
Маністамі – соліды,
а талеры – брошкамі...
Уткну ў іх мазольныя
свае аж тры грошыкі:
зграбаў не лапатаю
тэўтонам і вікінгам.
Крывіцкі доўг выканаў!
Збіраючы Балтыю,
Мяне Бог не выкінуў.

 



Бэртольд БРЭХТ

# Аўгсбургскі мелавы круг

Працяг. Пачатак у № 7.

Уначы Ганна захварэла, яе цэлы тыдзень калаціла ліхаманка. Яна больш ляжала напоўпрытомная. Толькі пару разоў перад абедам, калі трошкі адпускала ліхаманка, яна прабіралася да скрыні з дзіцем і папраўляла яму коўдру.

На чацверты тыдзень яе хваробы на двор заехаў на колах Отэрэр і забраў яе разам з дзіцем. Яна не сказала ні слова супраць.

Вельмі марудна да яе вярталіся сілы, не дзіва пры жыдкім супе ў хаце бабыля. Але аднойчы раніцай яна ўбачыла, якім брудным зрабілася дзіця, і рашуча ўстала.

Малы сустрэў яе прыязнай усмешкай, пра якую ейны брат казаў, што гэта ў хлопчыка ад яе. Ён падрос і лазіў па пакою з неверагоднай жвавасцю, ляпаючы ручкамі і пранізліва крычучы, калі падаў тварам на падлогу. Яна памыла яго ў драўляным чопе і зноў сабралася духам.

Праз колькі дзён жыццё ў хаце стала зусім невыносным. Яна захінула малога ў покрыўкі, прыхапіла трошкі хлеба і сыру і ўцякла.

Яна меркавала дабрацца да Зонтхофэна, але далёка не зайшла. Яна яшчэ слаба трымалася на нагах, гасцінец ляжаў пад лядовай коркай, а людзі ў вёсках з-за вайны зрабіліся вельмі недаверлівыя і злыя. На трэці дзень падарожжа яна вывіхнула нагу ў калдобіне на дарозе, некалькі гадзін праляжала, хвалюючыся за дзіця, пакуль яе не занеслі на нечый двор, дзе паклалі ў хляве. Малы лазіў паміж нагамі кароў і толькі смяяўся, калі яна ўскрыквала ад страху. Урэшце яна мусіла сказаць гаспадарам двара імя ейнага мужа, і тыя завезлі яе ў Мэрынг.

З тае пары яна больш не спрабавала ўцячы і змірылася са сваім лёсам. Надрывалася на працы. Было цяжка нешта вырасціць на маленечкім участку ды яшчэ трымаць мізэрную гаспадарку. Але муж не выказваў ёй няпрыязі, а дзіця было сытае. Часам заязджаў брат і прывозіў тое-сёе ў падарунак. А аднойчы яна нават дала пафарбаваць світку малога на чырвона. Так, думала яна, будзе да твару сыну фарбавальшчыка.

З цягам часу яна супакоілася і бясконца цешылася, выхоўваючы малога. Так прамінула колькі гадоў.

Але аднойчы яна пайшла за нечым у вёску Зіруп, а калі вярнулася, дзіцяці ўжо не было ў хаце, а ейны муж сказаў, што нейкая файна апранутая дама звязла яго ў сваёй карэце. Ад жаху яна прытулілася да сцяны, і ў той жа вечар выбралася ў дарогу на Аўгсбург, узяўшы толькі клунак з харчамі.

У імперскім горадзе яна першнаперш пайшла ў гарбарню. Яе туды не пусцілі і не паказалі дзіця.

Сястра і швагер дарэмна спрабавалі супакоіць яе. Яна пабегла да ўладаў і пачала крычаць там немым крыкам, што ў яе скралі дзіця. Яна зайшла так далёка, што заявіла, гэта, маўляў, пратэстанты скралі дзіця. Аднак даведалася, што цяпер насталі іншыя часы, бо паміж каталікамі і пратэстантамі заключаны мір.

Яна б хутчэй не дамаглася нічога, калі б не шчаслівы выпадак. Ейная справа была перададзена суддзі, які быў зусім адмысловым чалавекам.

То быў суддзя Ігнац Долінгер, вядомы на ўсю Швабію сваёй грубасцю і вучонасцю. Курфюрст Баварыі, супраць якога ён выйграў працэс на карысць вольнага імперскага горада, абазваў яго «гэты засраны вясковы лацініст». Але просты люд спяваў пра яго хвалебныя прыпеўкі.

Ганна з'явілася ў яго ў суправаджэнні сястры і швагра. Прысадзісты, але надзвычай тлусты стары чалавек сядзеў у малым голым пакоі пасярод стосаў пергаментаў. Ён нядоўга слухаў яе. Потым нешта напісаў на аркушы паперы і прабурчэў: «Ідзі туды ды хутчэй!» І паказаў ёй сваёй кароткай пухлай рукой на куток у пакоі, куды падала святло з вузенькага акна. Колькі хвілін ён углядаўся ў яе твар, а потым, цяжка ўздыхнуўшы, даў знак, каб яны сышлі.

На наступны дзень ён прыслаў па яе судовага служку, а калі яна толькі з'явілася на парозе, закрычаў: «Дык чаму гэта ты ні словам не згадала, што йдзецца пра гарбарню з неслабым даходам?»

Ганна цвёрда сказала, што йдзецца толькі пра дзіця.

«Выкінь з галавы, гарбарню ты не атрымаеш, – крычаў суддзя.– Калі падкідыш сапраўды твой, усё роўна маёмасць дастаецца сваякам Цынглі».

Ганна кіўнула, не гледзячы на яго. Потым сказала: «Яму не трэба гарбарні».

«Ён твой?» – гарланіў суддзя.

«Так,— сказала яна ціха. «Каб толькі ён мог быць са мной, пакуль не вывучыць усе словы. Ён ведае цяпер толькі сем».

Суддзя закашляўся, перасоўваючы пергаменты на стале. Потым сказаў больш спакойным, але ўсё яшчэ раздражнёным тонам:

«Ты хочаш мець гэтага карапуза і тая каза з яе пяццю спадніцамі хоча яго. Але яму трэба мець сапраўдную маці».

«Так», – сказала Ганна і паглядзела на суддзю.

«Знікні, – буркнуў ён. – Суд адбудзецца ў суботу».

У суботу на галоўнай вуліцы і плошчы перад ратушай сабралася процьма народу, што хацеў паглядзець на працэс па справе пратэстанцкага дзіцяці. Нетыповы выпадак з самага пачатку выклікаў вялікую цікаўнасць, у дамах і на працы людзі спрачаліся, хто ёсць сапраўдная і хто фальшывая маці. Стары Долінгер быў таксама шырока вядомы сваімі працэсамі, у якіх народная мудрасць зіхацела вострымі выказваннямі і прымаўкамі. Ягоныя разбіральніцтвы народ любіў больш, чым кілбасу і царкоўнае віно.

Перад ратушай сабраліся паназіраць за падзеямі не толькі аўгсбургцы, нямала было таксама сялянскага люду з наваколля. Пятніца была базарным днём, і яны засталіся на ноч у горадзе.

Зала, у якой вёў справу Долінгер, называлася Залатой Залай. То была знакамітае на ўсю Германію самае вялікае памяшканне без калон у інтэр'еры; столь была падвешана на ланцугах пад вільчаком.

Суддзя Долінгер сядзеў унутры, як малая, круглая камлыга мяса перад зачы-



ненай жалезнай брамай. Звычайны канат аддзяляў яго ад гледачоў. Але крэсла суддзі стаяла проста на падлозе, перад ім не было нават стала. За гады практыкі ён сам выпрацаваў гэты парадак; ён разумеў, наколькі важнае знешняе афармленне.

Па-за канатам побач з суддзёй знаходзіліся фраў Цынглі з яе бацькамі, сваякі нябожчыка пана Цынглі, што прыехалі са Швейцарыі, два багата апранутыя мужчыны, што выглядалі, як заможныя купцы, і Ганна з Отэрэрам ды ейная сястра. Побач з фраў Цынглі была нянька з дзіцем.

Усе, бакі працэсу і сведкі, сталі. Суддзя Долінгер любіў казаць, што разбіральніцтвы доўжацца карацей, калі ўдзельнікі стаяць. Але хутчэй за ўсё ён прымушаў іх стаяць, каб яны хавалі яго ад публікі. І ўбачыць яго можна было толькі ўстаўшы на дыбачкі і выцягнуўшы шыю.

На пачатку разбіральніцтва дайшло да інцыдэнту. Калі Ганна ўбачыла дзіця, яна ўскрыкнула і выйшла наперад. Дзіця таксама хацела да яе, яно пачало рвацца з рук нянькі і раўці. Суддзя загадаў вынесці яго з залы.

Потым ён паклікаў фраў Цынглі.

Яна зашамацела спадніцамі, выйшла наперад і пачала распавядаць, час ад часу прыкладаючы да вачэй хустачку, як падчас рабунку імперскія жаўнеры забралі яе дзіця. Яшчэ ў тую ж самую ноч служанка прыходзіла ў дом ейнага бацькі і паведаміла, што дзіця яшчэ знаходзілася ў разгромленым доме, мабыць, хацела атрымаць грашовую ўзнагароду. Бацька паслаў у гарбарню сваю кухарку, тая нікога там не знайшла. І яна мяркуе, што гэтая асоба (тут яна паказала на Ганну) завалодала малым, каб потым вымусіць у яе грошы. Служанка б выступіла рана ці позна з такімі патрабаваннямі, калі б дзіця ў яе своечасова не забралі.

Суддзя Долінгер паклікаў сваякоў пана Цынглі і спытаў іх, ці яны тады наводзілі даведкі пра пана Цынглі і што ім расказала была фраў Цынглі.

Тыя сказалі, што фраў Цынглі паведаміла ім, што ейны муж быў забіты, а дзіця яна даверыла нейкай служанцы, якая добра ім апякуецца. Яны гаварылі пра яе вельмі непрыязна і не дзіва, бо маёмасць пераходзіла да іх у выпадку, калі фраў Цынглі прайграе працэс.

Пасля іхняга выступу суддзя зноў звярнуўся да фраў Цынглі, каб спытаць, можа яна падчас нападу проста згубіла галаву і пакінула дзіця ў бядзе.

Фраў Цынглі паглядзела на яго нібыта здзіўлена сваімі бледна-блакітнымі вачыма і сказала, абражаная, што не кінула дзіця ў бядзе.

Суддзя Долінгер адкашляўся і спытаў яе з цікаўнасцю, як яна думае, ці можа якая-небудзь маці пакінуць сваё дзіця ў бядзе.

Не, думаю, не можа, сказала яна цвёрда.

Ці яна думае, распытваў суддзя далей, што маці, якая зрабіла гэта, трэба надраць задніцу незалежна ад таго, колькі на ёй спадніц?

Фраў Цынглі прамаўчала, і суддзя выклікаў былую служанку Ганну. Яна хутка выйшла наперад і ціхім голасам расказала тое, што ўжо расказвала падчас папярэдняга разбіральніцтва. Яна, аднак, гаварыла так, нібыта адначасова прыслухоўвалася, і час ад часу паглядала на вялікія дзверы, за якія аднеслі дзіця, нібыта баючыся, ці яно яшчэ не плача.

Яна расказала, што ў тую ноч пайшла ў дом дзядзькі фраў Цынглі, але потым не вярнулася ў гарбарню з-за страху перад імперскімі жаўнерамі і таму, што баялася за ўласнае пакінутае дзіця, якое знаходзілася ў добрых людзей у суседнім Леххаўзэне. Стары Долінгер груба перапыніў яе і раўнуў, што прынамсі аднаму чалавеку ва ўсім горадзе было ў той дзень страшна. Яму радасна канстатаваць гэта, бо гэта пацвярджае, што прынамсі ў адной асобы засталося трошкі розуму. Аднак непрыгожа было з боку сведкі, што яна апекавалася толькі сваім уласным дзіцем, пра што народ кажа: кроў не вадзічка. Сапраўдная маці ідзе на крадзеж дзеля свайго дзіцяці, што, аднак, забаронена законам, бо маёмасць ёсць маёмасць, а хто крадзе, той таксама хлусіць, а хлусіць таксама забаронена законам. І тут ён пачаў сваю мудрую і грубую лекцыю пра чалавечыя хітрыкі, якімі людзі да пасінення дураць суд, потым ён трохі адхіліўся ад галоўнай тэмы і казаў пра сялян, якія змешваюць малако нявінных кароў з вадой, пра гарадскі магістрат, які бярэ з сялян надта высокія кірмашовыя падаткі, і ўсё гэта зусім не мела сувязі з працэсам. Раптам ён заявіў, што заслухванне сведкаў скончана і яно нічога не дало для справы.

Потым ён зрабіў вялікую паўзу, дэманструючы ўсе прыкметы бязраднасці, аглядаючыся па баках, нібыта чакаючы адкуль-небудзь нейкай прапановы, якая дапамагла б прыняць рашэнне.

Людзі разгублена глядзелі адзін на аднаго, некаторыя выцягвалі шыі, каб зірнуць на бездапаможнага суддзю. У зале настала ціша, і толькі па галасах з вуліцы можна было здагадацца пра натоўп.

І вось суддзя ўздыхнуў і зноў узяў слова.

«Не было высветлена, хто з'яўляецца сапраўднай маці, – казаў ён.— Дзіцяці можна паспачуваць. Мы ўжо чулі, як бацькі, бывае, сволачы, хаваюцца і не хочуць быць бацькамі, а тутака з'явіліся ажно дзве маці. Суд выслухоўваў іх настолькі доўга, наколькі яны заслужылі, а менавіта кожную роўна па пяць хвілін. І суд прыйшоў да высновы, што абедзве хлусяць не міргнуўшы вокам. Аднак, застаецца разабрацца, як кажуць, з дзіцем, якое мусіць мець маці. Дык вось і трэба, не залазячы ў пустую балбатню, высветліць, хто ёсць сапраўдная маці».

Раздражнёным голасам ён гукнуў судовага служку і загадаў прынесці кавалак мелу.

Служка пайшоў і прынёс кавалак мелу.

«Накрэслі мелам на падлозе круг, у якім могуць стаць тры асобы», – сказаў яму суддзя.

Служка нахіліўся і накрэсліў круг.

Прывялі дзіця. Яно, аднак, зноў пачало раўці і хацела да Ганны. Стары Долінгер не звяртаў увагі на гармідар і толькі гаварыў грамчэй.

«Спробу, якая цяпер будзе зроблена, – паведаміў ён, – я знайшоў у адной старой кнізе, і яна добра надаецца і цяпер. Асноўная ідэя спробы з мелавым кругам простая і дазваляе пазнаць сапраўдную маці паводле ейнай любові да дзіцяці. Дык вось, трэба паспрабаваць, наколькі моцная гэтая любоў. Судовы служка, пастаў дзіця ў мелавы круг».

Служка ўзяў дзіця, якое ўсё раўло, з рук нянькі і завёў яго ў круг. Суддзя працягваў, звяртаючыся да фраў Цынглі і Ганны:

«І вы таксама ўстаньце ў мелавы круг, вазьміцеся моцна кожная за адну руку дзіцяці і, калі я скажу «цягніце», пастарайцеся выцягнуць дзіця з круга. Хто з вас мае мацнейшую любоў, будзе мацней цягнуць дзіця на свой бок».

Зала захвалявалася. Гледачы паўставалі на дыбачкі і спрачаліся з тымі, хто стаяў наперадзе.

Але зноў настала магільная ціша, калі абедзве жанчыны ўвайшлі ў круг і кожная ўзялася за руку дзіцяці. Дзіця таксама змоўкла, нібыта здагадваючыся, пра што йдзецца. Яно ўзняло свой заліты слязьмі тварык да Ганны. Тады суддзя скамандаваў «цягніце».

Адным моцным рыўком фраў Цынглі выцягнула дзіця з мелавога круга. Разгублена і яшчэ не верачы, што ўсё скончылася, Ганна глядзела яму ў след. Баючыся нанесці яму шкоду, калі яго тузануць адначасова ў два бакі, яна адразу адпусціла яго.

Стары Долінгер устаў.

«І вось мы даведаліся, – сказаў ён голасна, – хто ёсць сапраўдная маці. Забярыце дзіця ў гэтай падлюгі. Яна была гатовая халаднакроўна раздзерці яго на кавалкі».

І ён кіўнуў Ганне, а потым шпарка выйшаў з залы, каб з'есці свой абед.

На працягу наступных тыдняў мясцовыя сяляне, не якія-небудзь, што на галаву ўпалі, расказвалі, што суддзя, калі адсудзіў дзіця жанчыне з Мэрына, падміргнуў ёй.

**Пераклаў з нямецкай Валеры БУЙВАЛ**

Bertold Brecht. Kalendergeschichten. Leipzig, 1979.

 

Выбраннікі Зеўса

# Алімпійскі чэмпіён – адзін з самых шаноўных тытулаў

Перамога на старажытных Алімпійскіх гульнях лічылася найвялікшым гонарам для любога грэка. Нават цары марылі праславіцца на спаборніцтвах у Алімпіі. Гэтак, цар Македоніі Філіп быў настолькі шчаслівы, калі перамаглі ягоныя калясніцы, што стаўназываць Алімпіядай сваю жонку, якая нарадзіла напярэдадні гульняў сына Аляксандра. Пад імем Алімпіяды маці Аляксандра Македонскага і ўвайшла ў гісторыю.

Дзеля перамогі старажытныя грэкі былі здольныя на розныя хітрыкі. Не грэбавалі нават подкупам праціўнікаў. Нячыстых на руку, калі ўдавалася іх злавіць, штрафавалі, і на гэтыя грошы ставілі статуі Зеўсу. Імі была застаўлена ўся прастора вакол стадыёна ў Алімпіі.

Пераможцы Гульняў набывалі ўсенародную славу, у іхны гонар складаліся гімны, іх шанавалі як герояў. Аднойчы кулачны баец Дыягор прывёз на Алімпійскія гульні сваіх унукаў. Сам Дыягор і трое яго сыноў ужо праславіліся ў Эладзе сваімі алімпійскімі перамогамі. Перамаглі і ўнукі Дыягора. Жадаючы выказаць пашану дзеду, яны панеслі яго на руках па стадыёне. Гледачы кідалі ім пад ногі кветкі і крычалі: «Памры, Дыягор! Табе больш няма чаго жадаць ад жыцця!»

Згодна з паданнем, Алімпійскія гульні ўсталяваў Геракл, і гэта адбылося ў 1300 годзе да н. э. Здзейсніўшы чарговы подзвіг, ён збудаваў у Алімпіі храм Зеўсу. Алімпія была не горадам, а культавым участкам на тэрыторыі Элады – адной з рэгіёнаў Грэцыі. Побач з храмам Геракл пасадзіў аліву, вянок з ветак якой служыў узнагародай пераможцу Гульняў. Геракл азначыў і першыя праграмы спаборніцтваў – гонкі на калясніцах, бег і барацьбу. А таксама спаборніцтвы паэтаў і тэатральныя пастаноўкі. Перамогу на Гульнях лічылі знакам добрага стаўлення Зеўса. З цягам часу паэзія і тэатр адышлі на другі план і галоўнымі засталіся спартыўныя дасягненні. З падзеяў мясцовага значэння Алімпійскія гульні ператварыліся ва ўсегрэчаскае свята.

З IX стагоддзя да н. э. на час Алімпійскіх гульняў аб`яўлялася усеагульнае замірэнне, з 776 года да н. э. пачалі весціся спісы пераможцаў.

Удзельнічаць у Гульнях маглі толькі свабодныя грамадзяне. Жанчыны на Гульні не дапускаліся за выключэннем жрыцы багіні Дземетры.

За месяц да пачатку спаборніцтваў атлеты з'язджаліся ў Эладу на «адборачныя іспыты». Кідалі жэрабя і выбіралі суддзяў. Тыяназіралі нават за трэніроўкамі і давалі парады. За любое парушэнне ці непадпарадкаванне атлетаў білі бізуном. Для падтрымання парадку ў суддзяў быў спецыяльны атрад рабоў з дубінамі. Практыка вельмі жорсткая, але затое да спаборніцтваў дапускаліся толькі самыя мужныя і вынослівыя.

За некалькі дзён да пачатку Гульняў суддзі, атлеты, трэнеры, каляснічыя, уладальнікі коней пакідалі месца трэніровак і рушылі ў Алімпію, куды адначасова рухаліся калоны гледачоў, а таксама статкі, прызначаныя для ахвяравання багам. Бальшыня гледачоў дабіраліся ў Алімпію пешшу. Шмат хто не лянаваўся прайсці сотні кіламетраў. Кожны, хто марыў праславіцца, спяшаўся ў Алімпію. Вучоныя паказвалі тут свае вынаходніцтвы, мастакі выстаўлялі свае творы, на сходніках храмаў паэты, гісторыкі, філосафы чыталі свае творы. Сюды збіралася суцвецце грэчаскай нацыі – у Алімпіі выступалі Платон, Сафокл, Дэмасфен, тут чытаў сваю «Гісторыю» Герадот.

Кожны, хто прыходзіў у Алімпію, спяшаўся да храма Зеўса Алімпійскага, каб хоць раз у жыцці убачыць статую Зеўса, створаную праслаўленым скульптарам Фідзіем. Яе прылічалі да сямі цудаў свету. Фігура Зеўса, які сядзеў на троне, узвышалася на 17 метраў. Уся яна была аздоблена золатам і слановай косцю. У руцэ Зеўс трымаў статую багіні перамогі Ніку, а на галаве яго быў аліўкавы вянок. Каля храма Зеўса стаялі мармуравыя і бронзавыя статуі пераможцаў Гульняў.

Алімпійскія гульні працягваліся пяць дзён. У першы дзень прыносілі ахвяру багам і атлеты кляліся, што будуць паводзіць сябе высакародна. Суддзі кляліся судзіць справядліва. Адбываліся спаборніцтвы вяшчальнікаў і трубачоў, першыя дэманстравалі сілу свайго голасу, другія – майстэрства дудзець на трубе.

Стадыён Алімпіі быў вялікай пляцоўкай сярод пагоркаў. Гледачоў збіралася болей за 40 тысяч. Кожны удзельнік спаборніцтваў праходзіў па бегавой дарожцы, а вяшчальнік выкрыкваў яго імя, імя яго бацькі і назву іх роднага горада і пытаўся, ці не мае хто з гледачоў пярэчання супраць удзелу атлета ў Гульнях.

Атлетычныя спаборніцтвы цягнуліся тры дні. Бегуны дзяліліся па жэрабю на чацвёркі. Калі атлет раней часу зрываўся са старту, суддзя караў яго ударам бізуна. На гульнях у 720 годзе да н. э. юнак на бегавой дарожцы згубіў набедраную павязку, але прыйшоў да фінішу першы. З таго часу атлеты выступалі голыя.

У барацьбе, кулачных баях і панкраціі (злучэнне барацьбы і кулачнага бою) удзельнікаў не падзялялі па вагавых катэгорыях, а час бою не абмяжоўваўся. Пераможцай лічыўся той, хто тройчы адправіць суперніка на зямлю. У кулачных бойках удары дазвалялася наносіць толькі ў твар і галаву. Бой цягнуўся, пакуль адзін з праціўнікаў не падаў непрытомны ці не прызнаваў сябе пераможаным. Іншым разам бой зацягваўся на некалькі гадзін, і зmораныя атлеты пагаджаліся абмяняцца адкрытымі ўдарамі без абароны.

Асабліва любілі гледачы гонкі на калясніцах і конныя спаборніцтвы. Траўмы і смерць тут былі справай звычайнай. Праходзячы дыстанцыю, каляснічаму даводзілася рэзка разварочвацца на вялікай хуткасці. І часцяком ён куляй вылятаў на зямлю – на забаву гледачам. Але званне пераможцы ў гэтых рызыкоўных забегах даставалася не атлету, а шчасліваму ўладальніку запрэжкі. Наёмнымі былі і коннікі, што спаборнічалі ў скачках. Голыя вершнікі не карысталіся ні сядлом, ні стрэмем – толькі аброццю.


Заснавальнік Алімпійскіх гульняў Геракл

У апошні дзень Гульняў адбывалася ўзнагароджанне. Перад храмам ставілі стол са слановай косці, на ім ляжалі ўзнагароды – аліўкавыя вянкі з галінак святой алівы, што расла перад храмам Зеўса. Галоўны суддзя ўрачыста надзяваў на галаву пераможцы вянок, упрыгожаны белымі стужкамі, а вяшчальнік называў імя героя і яго родны горад. Закрыццё Алімпіяды ў той час выглядала так: прыносілі ахвяры дванаццаці алімпійскім багам і ладзілі агульны пір.


Багіня Перамогі Ніка

Калі пераможца ў чырвоным адзенні, на калясніцы, запрэжанай чацвёркай коней, вяртаўся дамоў, усе гараджане выходзілі яму насустрач. Іншым разам для ўезда трыумфатара нават разбіралі частку гарадской сцяны. Усе астатнія гады жыцця герой-алімпіёнік карыстаўся плёнам перамогі: яго выбіралі на вышэйшыя пасады, ён меў ганаровыя месцы ў тэатры, вызвалялі ад падаткаў і нават кармілі за грамадскі кошт. Помнікі ўзводзілі нават коням, што выйгралі спаборніцтвы.

У сярэдзіне II стагоддзя да н.э. Грэцыя патрапіла пад уладу Рымскай імперыі. Алімпійскія гульні паступова страцілі сваю веліч і ўсё болей рабіліся падобныя на любыя рымлянам баі ў цырках. Праўда, пад канец I стагоддзя да н. э. ранейшую славу Гульняў паспрабаваў адрадзіць рымскі імператар Аўгуст. Нерон у парушэнне традыцыяў аб`явіў Гульні на два гады раней, загадаў знішчыць статуі ўсіх былых пераможцаў і ўвёў спаборніцтвы спевакоў. Ведаючы жорсткі нораў Нерона, суддзі абвясцілі яго пераможцам. Пасля яго смерці гэтыя Гульні былі прызнаны несапраўднымі.

Апошнія Гульні старажытнасці адбыліся ў 393 годзе. Праз год шчыры хрысціянін імператар Феадосій I забараніў «паганскія гульбішчы». А ў 426 годзе імператар Феадосій II выдаў указ аб знішчэнні язычніцкіх храмаў. Храм Зеўса Алімпійскага быў спалены. Два землятрусы ў VI стагоддзі нашай эры ператварылі Алімпію ў руіны. Разлівы рэк Алфея і Кладзея занеслі іх пяском і ілам, і слой зямлі ў пяць метраў таўшчынёй на пятнаццаць стагоддзяў закрыў ад людзей руіны святой Алімпіі.

В 1829 годзе, праз два гады пасля выбрання першага Прэзідэнта свабоднай Грэцыі, за раскопкі Алімпіі прыняліся французскія археолагі. Усе знаходкі былі адпраўлены імі ў Францыю, у Луўр, дзе яны і захоўваюцца па сённяшні дзень. Даведаўшыся пра крадзеж нацыянальных каштоўнасцяў, грэчаскі ўрад загадаў французам пакінуць Алімпію. Раскопкі аднавіліся толькі праз 45 гадоў, гэтым разам іх вялі немцы. Яны працягваюцца дасюль, усё знаходкі застаюцца ў Грэцыі.

Першую спробу адрадзіць Алімпійскія гульні здзейснілі англічане. У 1610 годзе ў гарадку Кэмдэн былі праведзены Cotswold Olympic games. Свята цягнулася некалькі дзён і ўключала фехтаванне на кіях, бег ў мехах, барацьбу, кегельбан, а таксама танцы і тэатральныя пастаноўкі. Пераможцы атрымоўвалі грашовыя прызы, а пераможца на конных скачках – серабраную чашу. Апошнія Гульні ў Кэмдэне адбыліся ў 1852 годзе.

У 1849 годзе ў англійскім Шропшыры былі арганізаваны Алімпійскія гульні ў форме мясцовага спартыўнага фестывалю, якія праіснавалі некалькі дзесяцігоддзяў. У Бірмінгаме, Шрусберы і ў Велінгтоне ў сярэдзіне XIX стагоддзя таксама адбываліся так званыя «Olympic festivals».

Дух старажытных Алімпіяд намагаліся адрадзіць і самі грэкі. У 1865 годзе па ініцыятыве Евангеласа Запаса ў Афінах прайшлі спартыўныя спаборніцтвы. У далейшым яны праводзіліся яшчэ тройчы – у 1870, 1875 и 1889 гадах.

**Г.Т.**


Алімпія. Раскапаныя руіны храма Зеўса.

# Першы агент 007

***Алхімік, астролаг і сакрэтны агент англійскай каралевы Джон Дзі меў кодавае імя 007. Джэймс Бонд пазычыў у яго «шпіёнскі» псеўданім***

Жыццё Джона Дзі прыпала на сярэдзіну XVI стагоддзя, на крывавую і жорсткую эпоху, калі Англію раздзіралі рэлігійныя канфлікты. Фанатычная каталічка каралева Марыя змагалася з усімі праявамі пратэстантызму. Яе малодшая сястра Лізавета, не менш фанатычная прыхільніца англіканскай царквы, дачка караля Генрыха VIII і Анны Балейн, якой давялося пакласці сваю галаву на калоду, звярнулася да астролага за кансультацыяй наконт свайго лёсу. Яна знаходзілася ў турэмнай каморы, і цікавасць мела сур'ёзныя падставы. Дзі напрарочыў ёй карону, што збылося, і Дзі забяспечыў сабе пасаду каралеўскага астролага. Удала выбраўшы час каранацыі Лізаветы ў 1558 годзе, Дзі стаў не толькі прадказальнікам каралевы, а ўсяго англійскага двара, выконваючы на заказ гараскопы прыдворным.

Джон Дзі настолькі значна ўплываў на знешнюю і ўнутраную палітыку Лізаветы I, што без уліку астралагічных фактараў немагчыма правільная інтэрпрэтацыя гістарычных падзеяў у Англіі лізавецінскіх часоў. Прыкладам, сэр Уолтэр Рэйлі змог падрыхтавацца і даць бой Вялікай Армадзе, з'яўленне якой у Плімуце Джон Дзі прадказаў за год.

Адным з галоўных абавязкаў яго каралеўскай службы была дапамога ў выбары сярод еўрапейскіх князёў і каралёў магчымага сужонца для каралевы. Аднак, нягледзячы на мноства прапановаў і пастаянныя любоўныя прыгоды, Лізавета так і не выйшла замуж і не пакінула дзяцей (у гісторыі засведчаны словы каралевы аб тым, што яна замужам за Англіяй). Дзякуючы выдатным прагнозам Джона Дзі ці наадварот насуперак ім, але за сорак чатыры гады праўлення Лізаветы, якія атрымалі назву «лізавецінскай эпохі», Англія ператварылася ў адну з вядучых дзяржаваў Еўропы.

Джон Дзі меў бліскучыя здольнасці ад нараджэння. Ён закончыў каледж святой Тройцы ў Кэмбрыджы і ў 19 гадоў стаў асістэнтам па грэчаскай мове. Дзі пераклаў працы Эўкліда, напісаў знакамітую Матэматычную прадмову да першага выдання Эўкліда на англійскай мове. Дзі заслужана лічыцца адным з тытанаў Рэнесансу. Картограф, астраном, архітэктар, інжынер (удасканаліў навігацыйныя прыборы) Дзі цікавіўся невядомым у самым шырокім дыяпазоне – ад засваення Паўночнай Амерыкі да алхімічных эксперыментаў па ператварэнні простых металаў у золата. Астролаг каралевы Лізаветы быў уладальнікам адной з самых вялікіх бібліятэк свайго часу: яна налічвала болей за чатыры тысячы тамоў.

Сярод вынаходніцтваў Джона Дзі – парадаксальны компас і тэлескоп. Яго любоў да механікі праявілася ў стварэнні жука, які мог лятаць і быў настолькі падобны на жывога, што Дзі давялося абараняцца ад абвінавачванняў у чараўніцтве. Гэта было даволі складана, бо Джон Дзі насмельваўся сцвярджаць, што яго навуковыя і тэхнічныя вынаходніцтвы, яго палітычныя прагнозы і паўсядзённыя ўчынкі прадыктаваныя яму анёламі.

Запісы «размоваў» з анёламі ўтрымоўваюцца ў творах і дзённіках Джона Дзі, якія цудам захаваліся да нашых дзён. Яны прысвечаны унікальным эксперыментам, якія атрымалі назву «энахійскіх» (ад імя Эноха, адзінага з пракрокаў, які, згодна з кнігай Быцця, быў пры жыцці ўзяты на неба). Мэтай серыі доследаў па звышпачуццёвым успрыняцці было ўсталяванне кантакту з «духоўнымі субстанцыямі». У гэтым астролагу дапамагаў медыум Эдвард Келі, які сцвярджаў, што анёлы сказалі яму, каб у іх з Дзі ўсё было агульнае, не выключаючы жонак.

Першы сеанс, у ходзе якога быў дасягнуты поспех, адбыўся ў 1551 годзе. Медыум пабачыў анёла Урыэля, які растлумачыў, як стварыць васковы талісман (дасюль захоўваецца ў Брытанскім музеі). Менавіта анёлы давалі Дзі практычныя парады (аб тым, што казаць манархам) і прадказвалі палітычныя падзеі, напрыклад, марскі канфлікт Вялікабрытаніі і Іспаніі.

У часе сеансаў суразмоўцы Дзі і Келі перадалі ім алфавіт «анёльскай мовы», паказваючы на літары ў табліцах, прадыктавалі 19 паэтычных тэкстаў, гэтак званых «энахійскіх ключоў». Нягледзячы на тое, што анёлы казалі словы задам наперад, называючы літару за літарай з канца фразы, Дзі і Келі не толькі навучыліся размаўляць на «анёльскай» мове, але і пісалі на ёй і нават склалі яе транскрыпцыю.

Англійскі лінгвіст прафесар Дональд Лейкок у 70-я гады XX стагоддзя зацікавіўся феноменам энахійскай мовы і пасля двух год працы падрыхтаваў да друку поўны англа-энахійскі слоўнік. Он правёў камп'ютэрны аналіз і прыйшоў да высновы, што ў гэтай мовы ёсць уласны сінтаксіс і граматыка. Лейкок меркаваў, што тыя фрагменты, якія патрапілі да яго, з'яўляюцца часткай больш шырокай і структураванай мовы са сваёй уласнай унутранай логікай.

Прыжыццёвыя зносіны Джона Дзі з вышнімі сіламі і яго надзвычайныя таленты былі любімай тэмай размоваў пры ўсіх еўрапейскіх дварах. Стэфан Баторы ў Кракаве прапанаваў яму сваё апякунства, маскоўскі цар Фёдар Іванавіч – пасаду свайго прыдворнага медыка. Джон Дзі наведваў чэшскага караля Рудольфа II, якога называлі «каралём алхімікаў», і пражыў у Празе 1581–1583 гады.

Даследчыкі жыцця гэтага незвычайнага чалавека мяркуюць, што Джон Дзі ў сваіх паездках па Еўропе кіраваўся не толькі цікавасцю да навуковых навінак. Ён быў сакрэтным агентам брытанскай кароны. Свае паведамленні каралеве Дзі падпісваў «007». Менавіта ў Джона Дзі англійскі пісьменнік Ян Флемінг пазычыў гэтае кодавае імя для свайго Джэймса Бонда. З сучасным Бондам гэты код і звязаны ў свядомасці мільёнаў людзей. А пра першага сапраўднага агента амаль ніхто не ведае.

Жыццё вельмі часта несправядлівае. Каралева састарэла і забыла пра свайго астролага, дыпламата і лепшага са шпіёнаў. Алхімія не прынесла Дзі таго багацця, на якое ён спадзяваўся, і праслаўлены Джон Дзі памёр у беднасці.

Але па сённяшні дзень людзі, якія могуць паважаць чужы талент, якіх хвалююць містычныя загадкі лёсу, аддаюць належную даніну памяці гэтаму дзеячу эпохі Рэнесансу, які шчодра падзяліўся са светам сваімі набыткамі і які вярнуўся праз 400 год у народную культуру пад сваім кодам каралеўскага разведчыка.

**Вера КАРПОВІЧ**



Каралева Лізавета I ( выява Ў лонданскім музеі васковых фігураў)



Энцыклапедыст XVI стагоддзя, астраном, астролаг, алхімік, філолаг, інжынер, сакрэтны агент каралевы Джон Дзі

## Алімпіяда-2004



Узрослая ўвага да Гульняў дадае клопату сусветнаму тэлебачанню. Асвятленне Алімпійскіх гульняў у Афінах будуць весці 300 каналаў, яны прысвячаюць спаборніцтвам 35 тысяч гадзін эфірнага часу, гэта значыць па 2 тысячы гадзін кожны дзень, што азначае аўдыторыю ў 3,9 мільярды гледачоў. У Сіднее на Ігры «выдзялілі» 29.600 гадзін, а ў 1992 годзе ў Барселоне – 20.000 гадзін.




Напярэдадні адкрыцця Алімпійскіх гульняў у Грэцыі адбываецца сапраўдны бум пакупкі квіткоў на спаборніцтвы. У дзень прадаюць па 40–50 тысяч квіткоў. Перад тым арганізатары Алімпіяды доўгі час былі ў роспачы , бо дзесяткі тысяч квіткоў ляжалі незапатрабаваныя, пагражаючы вялікімі стратамі.

У апошнія гады шчыльна спалучаюцца спорт і мода. Гэты «раман» пачаўся тады, калі дызайнеры зразумелі, што ў зорак спорту шмат паклоннікаў, якія жадаюць быць на іх падобныя. Таму сёння стадыёны ўсяго свету сталі падобныя на подыум.

Модным сімвалам Алімпіяды-2004 могуць стаць некалькі спартсменаў. Найбольшыя шанцы маюць двое (на здымках):



Даніэла Рат , нямецкая рэкардсменка па скачках ў вышыню.



Кармела Энтані, амерыканскі баскетбаліст

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288–23–52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія № 02330/0056677 ад 29.03.2004 г.
220004, Мінск, вул. Каржанеўская, 14. Замова № 563
Падпісана да друку 10.08.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.